незалежная газета

# Наша Ніва

№ 22 (716) 8 чэрвеня 2011

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Другі Тур

Нецвярозы намеснік міністра эканомікі засвяціўся на скандальным відэа.

Відэа, якое ўначы з панядзелка на аўторак было выкладзена ў інтэрнэт, прымусіла па-іншаму паглядзець на асобу намесніка міністра эканомікі Андрэя Тура. Ролік быў зняты метадам схаванай камеры падчас дыпламатычнага прыёму ў пасольстве Швецыі ў Мінску. Магчыма, з дапамогай мабільнага тэлефона, які вісеў на шыі ў аднаго з суразмоўцаў. **Старонка 8.**

## Падслухоўванне людзей — норма?

Старонка 6

## Ці адбудзецца замена даляраў?

Старонка 7

**Тэндэнцыі**

## Моладзь рыхтуе на 3 ліпеня сюрпрыз

У інтэрнэце шырацца заклікі ператварыць святочныя мерапрыемствы ў пратэст.

Іх аўтары заклікаюць людзей выйсці 3 ліпеня на вуліцы Мінска і абласных гарадоў, каб запатрабаваць адстаўкі Лукашэнкі.

3 ліпеня — гэта Дзень Рэспублікі. Арганізатары просяць людзей прыйсці на дзяржаўнае святкаванне, але скандаваць там «Уході!» або «Сыходзь!».

У інтэрнэце з'явіўся нават сайт uhodi.org.

«Людзі падтрымаюць вокліч, бо Лукашэнка і перманентны крызіс надакучылі ўжо ўсім», — упэўнены юнакі. У сацыяльных сетках і на інтэрнэт-сайтах у падтрымку ідэі падпісаліся ўжо некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

Падкрэсліваецца, што пратэст будзе выключна мірным, у рамках канстытуцыйнага права на свабоду слова.

**Зміцер Панкавец**

Спецслужбы пачалі паляванне на адміністратараў суполак сацыяльнай сеткі «Вконтакте». **Старонка 5.**

# Мы ніколі не жылі так добра

Улады аптымізавалі цэны на паліва і цыгарэты. **Старонка 4.** І ўзялі ў Расіі новы крэдыт. **Старонка 3.**




PHOTO.BYMEDIA.NET

**«Меры, прапанаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам, яго выбаршчыкі разумеюць і падтрымліваюць». Старонка 7.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Аўтамабільная рэвалюцыя ў Мінску

Пратэст супраць росту цэнаў: у аўторак сотні аўтаматараў заблакавалі праспект Незалежнасці ў Мінску. **Старонка 8.**

Урад абнародаваў «сакрэтны план»: 35 крокаў для выхаду з крызісу. Фактычна, ён зводзіцца да апераджальнага росту цэнаў у параўнанні з зарплатамі. **Старонка 4.**

## Рост цэнаў даганяе дэвальвацыю

Адстаюць пакуль толькі гарэлка і цыгарэты.

Дэвальвацыя ўдарыла па кожным з беларусаў. Практычна ўсе імпартныя тавары падаражэлі роўна з курсам даляра. Прычым курсам чорнага рынку, а не афіцыйным. Бананы і крыніца вітамінаў цытрусавыя каштавалі прыкладна 5000 рублёў, сталі 10000.

А вось некаторыя тавары, цэны на якія ўсталёўвае дзяржава, даражэюць хутчэй, а іншыя — марудней.

Як бачым, цэны на цыгарэты і гарэлку змяніліся пакуль найменш. Але «аптымізацыя» дойдзе і да іх. Ад 8 чэрвеня цэны на цыгарэты выраслі збольшага на 30—60%. Праграма ўрада па выхадзе з крызісу прадугледжвае павышэнне акцызаў на алкаголь і тытунь да ўзроўню расійскіх.

**Яўген Васількоў**

| Тавар | 01.01.2011 | 08.06.2011 | Рост цаны |
|---|---|---|---|
| Гарэлка (без кошту бутэлькі) | 8650 | 10 830 | 25% |
| Цыгарэты («Уінстан») | 2490 | 3470 | 39% |
| Цукар | 2980 | 5000 | 68% |
| Дызпаліва | 2270 | 5100 | 125% |
| Бензін | 2520 | 5100 | 102% |
| Афіцыйны тэмп інфляцыі | | | 20% |

# У чаканні крэдытаў

Курс даляра на чорным рынку — 6000 рублёў, а еўра — каля 9000 рублёў.

Стаянне даляра на адным узроўні працягваецца ўжо другі тыдзень запар. Прадаць амерыканскія грошы валютчыкам можна паранейшаму за 6000 рублёў. Купіць — за 6200—6500 рублёў. Іншага выйсця ў беларусаў няма, бо ў абменніках па-ранейшаму няма ніякай валюты.

Курс даляра ў абменніках Вільні складае 5500 — 6600 рублёў за куплю і продаж адпаведна. Курс куплі вышэйшы за афіцыйны курс у Беларусі, што лішні раз падкрэслівае заніжанасць курса Нацбанка. Эксперты сыходзяцца да думкі, што рынкавы курс даляра пакуль на 20% вышэйшы за афіцыйны, і невядома, калі і як яны зраўнаюцца.

Удзельнікі рынку чакаюць дзеяньяў ад Нацбанка, які можа атрымаць $800 мільёнаў ад ЕўрАзЭс ужо ў найбліжэйшы час. Гэта дасць уладзе большую свабоду ў манеўрах на валютным полі.

**Яўген Васількоў**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Многія з будаўнікоў могуць застацца без заробку. Антыкрызісны план урада прадугледжвае скарачэнне фінансавання Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 30%.**

### Сцісла

• **Золатавалютныя запасы зноў скараціліся ў маі.** На 1 чэрвеня золатавалютныя рэзервы (ЗВР) Беларусі склалі 3593 млн даляраў, скараціўшыся ў параўнанні з пачаткам года на 28,6%. За май гэты паказчык зменшыўся на 5,3%. Непасрэдна валютныя рэзервы ў складзе ЗВР на 1 чэрвеня склалі $1321 млн, скараціўшыся з пачатку года на 30,8%. За май валютныя рэзервы скараціліся на 8,3%.

• **Беларускае пытанне ў ЕС не прыярытэт.** Супрацоўніцтва Брусэля з Мінскам у рамках праграмы «Усходняе партнёрства» не працуе, заявіў міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі. Ад 1 ліпеня Польшча старшынюе ў ЕС. У спісе прыярытэтных пытанняў польскага старшынства беларускае пытанне не згадвалася.

• **Суд над Пачобутам будзе закрытым.** Судовы працэс над журналістам Gazety Wyborczej і актывістам незалежнага Саюза палякаў Беларусі Андрэем Пачобутам пройдзе ў закрытым рэжыме. «Улады самі разумеюць абсурднасць абвінавачанняў і таму не хочуць, каб працэс быў публічным,» — так адкаментаваў ён гэта рашэнне жонцы ў часе спаткання. Толькі на прысуд зможа патрапіць кожны. Пачатак пасяджэння — 14 чэрвеня а 10-й у судзе Ленінскага раёна Гродна. Пачобута вінавацяць у абразе прэзідэнта і паклёпе на яго.

• **На МТЗ павышаюць заробкі.** На месяц. Прадпрыемства ўводзіць каэфіцыент 1,1 да заробку. Але гэтае павышэнне толькі на ліпень. Сёння на МТЗ сярэдні заробак складае 2 млн 370 тысяч рублёў.

**СМ, АП**

## Якабсон і Лукашэнка: па-рознаму інтэрпрэтуюць спадчыну Андропава

Старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон абверг інфармацыю, што ў працоўны час у некаторых крамах правяраюць дакументы наведвальнікаў. «КДК займаецца па даручэнні прэзідэнта дысцыплінай і парадкам на прадпрыемствах, у арганізацыях», — сказаў ён, дадаўшы, што астатняе — чуткі.

Нагадаем, крыніцай «чутак» было выказванне Лукашэнкі: «Прашу не звяртацца да мяне са скаргамі, што КДК, міліцыя, органы ўлады, кантралюючы дысцыпліну працы, кагосьці застукалі ў краме, калі ён мае быць на заводзе, фабрыцы, будаўнічай пляцоўцы. Бачыце, у Магілёве пакрыўдзіліся, што ў кагосьці папрасілі паказаць дакументы».

**СМ**

### Самае чытанае на nn.by за 1—7 чэрвеня

1 Намеснік міністра эканомікі Тур адбіваецца ад удзельнікаў дыпламатычнага прыёму. Відэа схаванай камерай

2 КДБ «Вконтакте»

3 Ідэолагі распускаюць чуткі пра замену даляраў

4 «Пакрытыкаваў Лукашэнку па тэлефоне — атрымаў 2 мільёны запазычанасці на рахунак»

5 Народны майстар з-пад Пружан дасціпна высмеяў Лукашэнку

6 У Мінску джып пераехаў дзяўчыну, што загарала

7 Шокавая аптымізацыя: урад абнародаваў раней сакрэтны План дзеянняў

8 Лукашэнка: да 2015 года заробак вырасце да 1000 даляраў

9 Мікрамаштабная акцыя пратэсту прайшла ў Брэсце

10 Мясніковіч: Беларусь разлічвае прыцягнуць $3,5—8 мільярдаў крэдытных рэсурсаў МВФ

## Падтрымаем «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

Беларуская асацыяцыя журналістаў склала прыкладны ўзор звароту ў Мініфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мінінфарма закрыць «Нашу Ніву» і «Народную Волю».

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*
*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск,*
*пр. Пераможцаў, 11.*
*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

**Копіі зваротаў прышліце ў Рэдакцыю, каб мы маглі выкарыстаць іх у судзе.**

КАМЕНТАР

## Улада адрываецца

Рэдактар «Советской Белоруссии» п'е сок за 40 тысяч і нам рэкамендуе.

Наколькі ж улада адарвалася ад народа!

«У мінулую нядзелю зайшоў у кавярню і замовіў «двайную» шклянку маркоўнага соку. Паміж намі кажучы, раблю гэта пры першай магчымасці — вам таксама раю. І карысна, і асвяжае. Але гэтым разам прыемнае баўленне часу трохі азмрочылася. Калі паўтара тыдня назад фрэш каштаваў 30 тысяч, то цяпер ужо — 40».

Гэта цытата з артыкула «Стоп-цана», надрукаванага 31 мая ў калонцы рэдактара «Советской Белоруссии». Разважанні рэдактара прэзідэнцкай газеты аб прычынах падаражання любімага напою пакінем эканамістам. Звычайных чытачоў — а «Советскую Белоруссию» ў добраахвотна-прымусовым парадку выпісваюць ва ўсіх установах — у артыкуле абурыў сам сок.

«Нашы настаўнікі за месяц зарабляюць 700 тысяч чыстымі! Значыць, за дзень ён і на прадукты, і на адзенне, і на камунальныя можа патраціць усяго 23 тысячы, — расказаў нам гнеўны чытач. — Да нас пад Карэлічы прывезлі кілбасу за 40 тысяч, то людзі ішлі ў краму, як у музей, каб на свае вочы пабачыць той «цуд». А ён нам раіць шклянку соку за 40 тысяч».

Калі вярстаўся нумар з артыкулам спадара Якубовіча, сярэдняя пенсія ў Беларусі была каля 600 тысяч. Па «старой» цане пенсіянер мог набыць 20 порцый фрэшу. А цяпер, нават пасля павышэння памеру пенсій, і таго менш. Няма нічога кепскага, калі багаты чалавек дазваляе сабе тое, чаго іншыя не могуць. Але ж чалавека з-пад Карэліч абурыў разрыў між прапагандай «улады для народа» і яе сутнасцю. У выпадковай рэпліцы Якубовіча адкрылася тая прорва, што аддзяляе цяперашняе кіраўніцтва краіны ад яе грамадзян.

У сваім артыкуле рэдактар «СБ» папракнуў айчынны бізнес у жаданні «злавіць момант», зарабіўшы грошы на неабгрунтаваным задзіранні цэнаў. І прывёў у прыклад словы аднаго знаёмага пра тое, што ў Еўрасаюзе бізнесоўцы б'юцца за прыбытак у 5%, а нашы «непрэстыжным» лічаць зарабляць менш за 30%. У сувязі з гэтым хочацца прыгадаць пра іншы еўрапейскі досвед. Ці ёсць у Еўрасаюзе хоць адна дыктатура? Якія там адносіны між дзяржавай і бізнесам? Ці ёсць там прымусовая падпіска (старонка 9)? І, нарэшце, ці ёсць там хоць адна краіна, дзе адбылася такая дэвальвацыя, як у Беларусі?

**Сямён Печанко**

# Раз крэдыт, два крэдыт

### Ці зможа вывесці расійскі крэдыт Беларусь з эканамічнага крызісу?

Міністры фінансаў краін ЕўрАзЭС на пасяджэнні ў Кіеве 4 чэрвеня ўхвалілі выдзяленне Беларусі крэдыту з антыкрызіснага фонду гэтай арганізацыі.

Агульная сума крэдыту складзе 3 млрд даляраў ЗША. 1,2 млрд будзе выдзелена ў 2011 годзе (першы транш — 800 млн — цягам найбліжэйшага тыдня), 0,8 млрд — у 2012 годзе, 1 млрд — у 2013-м, паведаміў прэс-сакратар прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрый Пяскоў.

«Пасля прыняцця рашэння прэм'ер-міністр РФ Уладзімір Пуцін у тэлефоннай размове са сваім беларускім калегам Міхаілам Мясніковічам інфармаваў яго аб дэталях прынятага рашэння, а таксама абмеркаваў з ім розныя нюансы рэалізацыі беларускай стабілізацыйнай праграмы і расійска-беларускага супрацоўніцтва ў гэтым кантэксце», — адзначыў Пяскоў.

Як заявіў віцэ-прэм'ер, міністр фінансаў РФ Аляксей Кудрын, крэдыт даецца на 10 гадоў пад плаваючую стаўку, прывязаную да крэдытных ставак Расіі і Казахстана. Паводле яго слоў, прыватызацыя беларускіх актываў на 7,5 млрд даляраў цягам трох гадоў засталася адной з умоў прадастаўлення Мінску крэдыту. «Гэтая ўмова, безумоўна, захаваецца».



**Застаўшыся без замежных крэдытаў, беларуская эканоміка забарахліла.**

Беларусь звярталася да Расіі і ЕўрАзЭС з просьбай аб крэдыце яшчэ пры канцы сакавіка. Тады міністр фінансаў Харкавец сумарна прасіў тры мільярды. Расія паставіла жорсткія ўмовы, што беларуская эканоміка павінна правесці рынкавыя рэформы, пачаць прыватызацыю, зменшыць расходы ў бюджэтнай сферы, у дзяржаўных праграмах. Фактычна, тое самае, што раней патрабаваў МВФ.

Ужо тады некаторымі аналітыкамі адзначалася, што адмова ў крэдыце можа прывесці да эканамічнага краху. На справе так і выйшла. За два месяцы беларускі рубель дэвальваўся на 56% (а на чорным рынку і на ўсе 100), быў зафіксаваны істотны рост інфляцыі. Далейшае зацягванне магло прывесці яшчэ да большых наступстваў.

Каб заахвоціць Беларусь да прыватызацыі, у Кіеве Кудрын нагадаў, што для сябе Расея вызначыла памер штогадовай прыватызацыі на ўзроўні $10 млрд. Пры гэтым гаворка ідзе аб прыватызацыі «першакласных актываў». Да гэтых актываў ён аднёс долі дзяржавы ў ВТБ, Ашчадбанку, Саўкамфлоце, «Раснафце».

Цяпер можна чакаць некатарага росту курса рубля і ажыўлення на фінансавым рынку краіны. Хаця эканамісты мяркуюць, што крэдыт не вырашае існыя праблемы, ён проста дазваляе адцягнуць час.

Аб тым, што расійскіх грошай недастаткова, можа сведчыць факт звароту беларускага ўрада ў МВФ з чарговай просьбай аб выдзяленні крэдыту. Пра гэта ў першы дзень лета паведаміў прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч.

Беларусь разлічвае атрымаць ад МВФ ад 3,5 да 8 мільярдаў даляраў. У 2009 — пачатку 2010 Беларусь ужо атрымлівала дапамогу ад МВФ. Гэта адбывалася ў пік супрацьстаяння Лукашэнкі з Крамлём. Выказвалася меркаванне, што менавіта грошы фонду дапамаглі Лукашэнку пераабрацца на новы тэрмін.

Той крэдыт суправаджаўся адноснай лібералізацыяй у краіне. Цяпер сітуацыя крыху іншая: Беларусь мае чатыры дзясяткі палітвязняў, зачыняюцца недзяржаўныя газеты. Многія прадстаўнікі апазіцыі кажуць, што гэты крэдыт нічога не дасць эканоміцы краіны, але дапаможа ўмацаваць рэпрэсіўны рэжым.

Дарэчы, у спробах змагання з крызісам лукашэнкаўцы вынаходзяць новыя метады. Той самы Мясніковіч меў сустрэчу з былым старшынёй Нацбанка Станіславам Багданкевічам. Прэм'ер прапанаваў супрацоўніцтва. Спадар Багданкевіч адмовіўся. Прапанаваў толькі больш актыўна прыцягваць да працы маладых, прасіць крэдыт у МВФ, а таксама спыніць палітычны пераслед. Як бачым, да адной з прапановаў прафесара ўрад ужо прыслухаўся.

**Зміцер Панкавец**

# Новая кіраўніца сацыял-дэмакратаў Ірына Вештард: Будзем рабіць спробы аб'яднання

5 чэрвеня ў Мінску, у сядзібе Партыі БНФ, адбыўся пазачарговы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Вынікі папярэдняга з'езда, дзе старшынёй быў абраны гісторык Анатоль Сідарэвіч, не прызнаў Мінюст. На гэты раз Сідарэвіч не вылучаўся. Кіраўніком партыі на безальтэрнатыўнай аснове была абраная кіраўніца Смаргонскай суполкі сацыял-дэмакратаў Ірына Вештард. Намеснікаў у яе будзе аж сем: Ігар Маслоўскі (першы намеснік), Валерый Фралоў, Ганна Канюс, Ігар Барысаў, Вольга Тыгрыцкая, Валянціна Болбат, Аляксей Сігаеў.

**«Наша Ніва»: Спадарыня Ірына, чаму вырашылі ўзваліць на свае плечы старшынства ў партыі?**

**Ірына Вештард:** Я ў сацыял-дэмакратычнай партыі з першых яе дзён. Брала ўдзел у вылучэнні дэлегатаў на ўстаноўчы з'езд. Ніколі не сыходзіла з партыі, як бы складана ні было. За сваю палітычную дзейнасць была пазбаўленая працы інспектара па школах. Мяне скарцілі, але выжывала рознымі шляхамі. Цяпер тая самая задача стаіць перад партыяй — выжыць. Таму ўзяла на сябе гэтыя абавязкі. Хачу, каб партыя існавала яшчэ доўга. Быць старшынёй ніколі не было маёй мэтай.

**«НН»: Якія цяпер першасныя задачы стаяць перад Вамі?**

**ІВ:** Зараз мае галоўныя абавязкі — гэта скласці адпаведныя дакументы для Мінюста. І трэба рыхтаваць маладыя кадры, якія будуць здольныя прыйсці нам на замену.

**«НН»: Апошнія гады аўтарытэт БСДП, мякка кажучы, быў троху падарваны. Што цяпер рабіць, каб яго вярнуць?**

**ІВ:** Трэба пачаць больш актыўнае супрацоўніцтва з іншымі партыямі — АГП, БНФ, «Справядлівым светам». Ну і трэба, каб нейкія канфліктныя сітуацыі не выходзілі вонкі.

**«НН»: У Смаргоні Вы вядомы чалавек?**

**ІВ:** Шаснаццаць гадоў я была дэпутаткай мясцовага савета. Можа, не так шмат абяцала, але выконвала ўсё спраўна. Прынамсі, па прозвішчы мяне ў горадзе ведаюць.

**«НН»: Кіраваць партыяй будзеце з роднага горада ці са сталіцы?**

**ІВ:** У мяне ёсць дастаткова родных людзей у Мінску. Гэта не праблема. Дый Смаргонь — не далёкі свет. Дзве гадзіны, і ты ў Мінску.

**«НН»: Цяпер мы маем шмат сацыял-дэмакратычных партый. Не будзеце рабіць спробы іх аб'яднання?**

**ІВ:** Я за тое, каб у краіне існавала адна моцная сацыял-дэмакратычная партыя. Не бачу нічога разумнага, што іх цяпер так многа. Будзем рабіць спробы аб'яднання.

**Гутарыў ЗП**



**Ірына Вештард** нарадзілася ў 1953 у вёсцы Богушы (Смаргонскі раён). Вучылася ў Смаргоні ў школе-інтэрнаце. Скончыла хімічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай, школьнай інспектаркай. Ад 1991 да 2007 была дэпутаткай мясцовага савета.

# Пасол Украіны паплаціўся за смелыя выказванні

### Прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч 3 чэрвеня звольніў пасла ў Беларусі Рамана Бяссмертнага. Хоць той адпрацаваў на дыпламатычнай пасадзе ўсяго толькі год.

Раман Бяссмертны ў 2004 годзе быў камендантам намётавага мястэчка на кіеўскім майдане. Паслом у Беларусь Бяссмертны быў прызначаны Віктарам Юшчанкам, у апошні дзень яго кіравання.

Пасля падзеяў 19 снежня Бяссмертны неаднаразова ад свайго імя выказваўся аб недэмакратычнасці беларускай улады. Бяссмертны нават не наведваў інаўгурацыю Лукашэнкі, байкатуючы яе разам з пасламі еўрапейскіх краін.

«Я бачыў украінскія, грузінскія, чэшскія, польскія, брытанскія выбары. Але тое, што ўбачыў у Беларусі, пакінула дзіўныя адчуванні. Што такое выбары па-беларуску? Гэта выбары ... калі на ўсіх каналах толькі адзін чалавек. А потым мне адкрылі таямніцу: аказваецца, што настолькі адкрытых выбараў у Беларусі, як у 2010 годзе, яшчэ не было. Магу сказаць: я не змог бы жыць у такіх умовах. Або зрабіў бы ўсё, каб перамагчы такую сітуацыю. Ва Украіне я рабіў усё, каб у нас такіх выбараў больш ніколі не было», — казаў журналістам Бяссмертны.

Звальняючы Бяссмертнага, Януковіч прадэманстраваў жаданне не псаваць адносіны з Беларуссю. Нават нягледзячы на словы Лукашэнкі аб «вашывасці» ўкраінскага лідара. З той самай нагоды многія ўкраінскія тэлеканалы замоўчалі тыя прыкрасці.

Пасля звальнення Бяссмертны зазначыў, што яшчэ далікатна выказаўся аб беларускіх рэаліях. Адносна рашэння ўкраінскіх уладаў сказаў: «Яны мне ніколі не даруюць 2004 год».

Выглядае на тое, што новым паслом Украіны будзе былы міністр рэгіянальнага развіцця і будаўніцтва Віктар Ціханаў.

**ЗП**

# Шокавая аптымізацыя

**Урад абнародаваў «сакрэтны план»: 35 крокаў для выхаду з крызісу.**

Грамадства нарэшце даведалася, якім чынам урад збіраецца выводзіць краіну з піке. «Мне сорамна, што пастанова выйшла пад грыфам «для службовага карыстання», — заявіў віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Праз тыдзень пасля прыняцця дакумент выкладзены на сайт урада ў інтэрнэце.

Пастанова Савета міністраў №662 ад 25 мая 2011 года абяцае разнастайныя крокі па «забеспячэнні збалансаванага развіцця эканомікі ва ўмовах змены афіцыйнага курса беларускага рубля» — усяго 35 пунктаў. Прычым частка першага кроку ўжо зробленая — ад 1 чэрвеня ў краіне выраслі пенсіі. Дакумент абяцае, што дадатковыя пераразлікі будуць праведзеныя ў жніўні і лістападзе. Якія іншыя кірункі рэфармавання абраў Савет міністраў?

### Падаражанні

«Аптымізацыя», «удакладненне», «ліквідацыя дыспарытэту»... — пад усімі гэтымі словамі хаваецца адзіны сэнс. Фактычна, рост цэнаў ва ўсіх накірунках.

Па-першае, цыгарэты і алкаголь. Тут вырашана раўняцца на Расію. Стаўкі акцызаў будуць «збліжаныя» з расійскімі.

Па-другое, бензін і дызельнае паліва. У гэтым выпадку рыхтуецца «ліквідацыя дыспарытэту цэн з сумежнымі дзяржавамі». Можна арыентавацца і на Расію (тады літр будзе каштаваць $1), а можна і на Літву з Латвіяй. Тады цэны вырастуць у некалькі разоў.

Трэцяе — сельгаспрадукцыя. Будуць паднятыя закупныя цэны, а ўслед — і цэны на садавіну і гародніну.

Чацвёртае і пятае — «удакладняцца» цэны на сувязь, а таксама на транспартныя паслугі.

І нарэшце, «дзеля абароны ўнутранага спажывецкага рынку» запланавана зраўняць цэны на спажывецкія тавары з тымі, што ёсць у суседніх дзяржавах. Гэта азначае рост цэнаў на тавары, якія лёгка вывозяцца і якія праз дэвальвацыю аказаліся ў Беларусі таннейшымі, чым на сусветным рынку.

### Валюта

Беларусь гатовая пачаць далярызацыю эканомікі, адмовіўшыся ад ранейшага адваротнага курса. Сфера выкарыстання валюты пры разліках будзе пашырацца, прычым, відаць, не абмяжуецца турфірмамі і запраўкамі.

Зборы і падаткі таксама можна будзе выплачваць у замежнай валюце. Вось толькі хто захоча здаваць даляры і еўра па афіцыйным курсе?

Апроч таго, дзяржава хоча павысіць агульны аб'ём абавязковага продажу валюты. Для гэтага прадугледжана «адмена льгот па абавязковым продажы замежнай валюты».

### Іншае

Прапануюцца рэформы і ў іншых кірунках. Напрыклад, на трацінy будзе згорнутае фінансаванне Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы, а выдаткі бюджэту будуць зменшаныя такім чынам, каб яго дэфіцыт складаў 1,5% ВУП. Фінансаванне дзяржпраграм будзе скарочана.

Што да заробкаў, то яны будуць расці, праўда, незаўважна — па 20—30 тысяч рублёў у месяц. Для самых бедных плануецца выдзяленне дадатковай адраснай сацыяльнай дапамогі.

### Што на выхадзе?

План не нясе ніякіх рэвалюцыйных новаўвядзенняў. Больш за тое, ён не апісвае ніякіх канкрэтных дзеянняў, якія маглі б забяспечыць «збалансаванае развіццё эканомікі». Фактычна, ён зводзіцца да плана апераджальнага росту цэнаў у параўнанні з зарплатамі. Цэны ў даляравым эквіваленце маюць дасягнуць ранейшых, дадэвальвацыйных узроўняў, тады як зарплаты ў даляравым эквіваленце маюць вырасці ўсяго на пару працэнтаў ад узроўню пасля дэвальвацыі.

Няма нават ідэалагічна-правільных пасылаў, якія маглі прадэманстраваць — «Мы ашчаджаем!» У дакуменце не распісваецца змяншэнне дзяржаўных выдаткаў (скарачэнне спецназа, адмена «Дажынак», перапрафіляванне адыёзных Лядовых палацаў).

«Гэта шэдэўр бюракратычнай творчасці, калі за прыгожымі словамі схавана поўная адсутнасць рэальных мер, — мяркуе незалежны эканаміст Дзмітрый Івановіч. — План — намінальны дакумент, уся задача якога складаецца ў чыста фармальным выкананні патрабаванняў ЕўрАзЭС. Крэдыт — не што іншае, як аванс за наступную прыватызацыю шэрагу актываў. Беларусі трэба было прадставіць нейкі дакумент, каб крэдыт не выглядаў зусім авансам — вось яго і напісалі».

**Яўген Васількоў, Сяргей Гезгала**

# Ізноў бензін...

**У адныя рукі — не больш за 25 літраў бензіну. Такія абмежаванні папярэднічалі чарговаму павышэнню цэнаў.**

Дэфіцыт паліва пачаўся ў Беларусі ў канцы мінулага тыдня. Нафтаперапрацоўчыя кампаніі, якім стала нявыгадна працаваць у новых умовах, калі адзін літр бензіну $0,8, заявілі пра скарачэнне складскіх запасаў. Афіцыйная пазіцыя, як заўсёды, пераклала віну на аўтамабілістаў: нафтапрадуктаў засталося мала праз «ажыятажны попыт насельніцтва» ў параўнанні з мінулым годам. «Ажыятаж» быў цалкам прадказальным, калі ўлічыць, што з мінулага чэрвеня ў краіну было ўвезена каля 300 тысяч дадатковых аўтамабіляў. Нафтаперапрацоўшчыкі нібыта не былі гатовыя да новых рэалій.

Так ці інакш, але 3 чэрвеня 2011 года кіраўніцтва РУП «Белнафтахім» загадала запраўкам увесці абмежаванне на продаж паліва. Нормы былі ўсталяваныя наступныя: 25 літраў паліва для легкавіка і 100 літраў — для грузавіка. У лісце, падпісаным намеснікам гендырэктара «Беларуснафты» С.С.Каморнікавым, даецца ўказанне праінструктаваць персанал АЗС «пра карэктную працу з пакупнікамі і папярэджанне канфліктных сітуацый» і даецца парада «праводзіць тлумачальную працу з кліентамі». Цікава, што абмежаванне датычыць толькі аперацыяй за наяўныя беларускія рублі. За валюту можна наліваць бензінам хоць цыстэрну. Але пры істотнай умове — калі на запраўках засталося хоць якое паліва. Удакладненне важнае, бо шмат якія АЗС былі вымушаныя, фактычна, спыніць сваю працу.

У абласных цэнтрах сітуацыя не такая складаная. Прапыніць працу адна запраўка — кліенты пераедуць да суседняй. У правінцыі ж на выходных назіралася сітуацыя, калі аўтамабілісты былі вымушаныя ездзіць у суседнія раёны, бо ў іх гарадках паліва ўжо не было.

Некаторыя прыватныя сеткі заправак зусім перасталі запраўляць за наяўныя. У прыватнасці, агенцтва «Інтэрфакс» паведаміла, што спыніў продаж дызпаліва фізічным асобам нават гігант «Лукойл».

Урэшце стала вядома, што «ажыятаж» узнік не дарэмна. Сапраўды, ад 7 чэрвеня паліва падаражэла на 30%, дасягнуўшы прыблізнай цаны $1 па афіцыйным курсе = 1 літр.

**ЯВ**

# У Беларусі ўсталяваны новы рэкорд вышыні будынка



**Так «Ветразь» выглядаў падчас будаўніцтва 30-га паверха.**

**Пачалася эпоха стаметровых хмарачосаў.**

Цяпер самы высокі дом — 32-павярховы гмах «Ветразь», які будуецца ў Мінску на рагу вуліц Кальварыйскай, Клары Цэткін, Ціміразева і Максіма Танка. Яго вышыня ўжо дасягнула 100 метраў.

«Цяпер дабудоўваецца 30-ы паверх, — паведамілі карэспандэнту «НН» у офісе забудоўшчыка, кампаніі «Ітэрабелбуд». — Вышыня ад узроўню зямлі да падлогі самага верхняга паверха, апроч пентхаўсаў, складзе 104 метры. Да гэтай вышыні засталося дабудаваць адзін паверх (3 м) і два перакрыцці (па 0,3 м)». Такім чынам, на дадзены момант «Ветразь» ужо вымахаў на 100,4 метра.

Напрыканцы будоўлі агульная вышыня небасяга будзе 133 метры за кошт металічнай канструкцыі на версе «Ветразя».

Да з'яўлення «Ветразя» лідарства ўтрымліваў 90-метровы гмах «Белбыттэхпраекта», што каля станцыі метро «Фрунзенская» ў сталіцы. Дарэчы, гэтыя два будынкі раздзяляе адлегласць у 700 метраў.

Другое месца займаў гатэль «Беларусь», вышыня якога складае 75 метраў. Гасцініца чакае рэканструкцыі, у выніку якой «падрасце» на два паверхі.

І, нарэшце, на трэцім месцы быў будынак Нацыянальнай бібліятэкі — 73,6 метра.

**ЯВ**

# Ні ўверх ні ўніз

**Рынак нерухомасці замёр у чаканні.**

Пасля дэвальвацыі цэны на другасным рынку і ў новабудоўлях фактычна зраўняліся і складаюць каля $1300 за квадратны метр. У даляравым эквіваленце яны спыніліся на такім самым узроўні, што і ў пачатку года. Прычын для патаннення ўдзельнікі рынку пакуль што не ўбачылі.

Разам з тым, купляльная здольнасць насельніцтва рэзка ўпала, бо заробак у большасці людзей не прывязаны да даляра. У бліжэйшыя месяцы чакаецца падзенне цэнаў на другасным рынку жылля. А вось перадумоў да патанення новых кватэр няма. Нізкія індэксы мантажна-будаўнічых працаў прымушаюць забудоўшчыкаў змяншаць свой прыбытак ва ўжо будаваных дамах да мінімуму. У новых дамах яны пастараюцца кампенсаваць страчаныя грошы.

У сваю чаргу, кошт арэнды жылля нязначна знізіўся ў даляравым эквіваленце. Напрыклад, калі ў пачатку года за звычайную аднапакаёвую кватэру ў Мінску прасілі каля $180—200 (540—600 тысяч рублёў) штомесяц, то цяпер яна каштуе ў раёне 800 тысяч — 1 мільёна рублёў. Гэта $130—170.

**ЯВ**

### Сцісла

• **Крыніца: «Белтрансгаз» аддадуць у ліпені.** Паводле інфармацыі «Беларускага партызана», расійскі «Газпром» прыняў рашэнне аб набыцці акцый «Белтрансгаза» за $2,5 мільярда. Здзелка павінна быць завершана ў ліпені. Застаецца ўзгадніць дэталі: напрыклад, ці будзе адначасова падпісаны кантракт на пастаўку газу.

• **Інфляцыя — 20,2%.** Паводле інфармацыі намесніка міністра эканомікі Андрэя Тура, на 1 чэрвеня ўзровень інфляцыі ўжо пераваліў за 20%. На 1 мая было каля 10%.

• **Дзяржава згортвае льготныя крэдыты на куплю беларускіх тавараў.** Крэдыт на куплю тавараў, пералік якіх зацвярджаўся ўрадам (55 найменняў) можна было атрымаць на тэрмін да трох гадоў пад 10% гадавых.

**ЯВ**

# КДБ «Вконтакте»

**Беларускія спецслужбы баяцца каардынацыі пратэстаў праз сацыяльныя сеткі, як тое было падчас рэвалюцыі ў Егіпце.**



Спецслужбы пачалі паляванне на адміністратараў суполак сацыяльнай сеткі «Вконтакте» (vkontakte.ru), праз якія беларусаў заклікалі да мірных акцый пратэсту. 6 чэрвеня затрымалі адміністратараў такіх суполак Сяргея Паўлюкевіча і Дзмітрыя Няфёдава. Аднога палохалі крымінальнай справай, другога — «суткамі».

Сяргей Паўлюкевіч стварыў суполкі «Марш мільёнаў» і «Мы за вялікую Беларусь!» 3 чэрвеня супрацоўнікі КДБ забралі яго на «размову» разам з персанальным камп'ютарам. Пры гэтым ніякіх дакументаў не паказалі.

У КДБ гутарка ішла пра дзейнасць Сяргея ў сацыяльных сетках. Яму прыгрозілі крымінальнай адказнасцю (артыкул 342), калі ён будзе працягваць заклікаць людзей на Плошчу. І запатрабавалі, каб ён выдаліў суполкі з сайта. Малады чалавек адзначыў, што такой функцыі ў vkontakte.ru няма. Таму ён проста адключыў усе блокі. Паўлюкевіч паабяцаў, што найбліжэйшым часам праца суполак аднавіцца. Сяргея адпусцілі ў той самы дзень. Але камп'ютар не аддалі.

Акурат напярэдадні затрымання Сяргей даслаў у Рэдакцыю «НН» ліст, у якім заявіў пра ціск з боку спецслужбаў на яго сям'ю. Сяргей, якога пасля падзей на Плошчы спрабавалі завербаваць супрацоўнікі КДБ, паведаміў, што 2 чэрвеня спецслужбісты прыйшлі на працу да яго маці. Яны параілі паўплываць на сына. У процілеглым выпадку паабяцалі пасадзіць сына ў турму.

У той жа дзень зператрусам прыйшлі да адміністратара іншай суполкі «Вконтакте», «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку», Дзмітрыя Няфёдава. Афіцыйна — па справе падпалу Дома правасуддзя ў Мінску. Як паведаміў адзін з сяброў Няфёдава, вобшук праводзіўся павярхоўна. Галоўная мэта прыходу — забраць камп'ютар. Падчас вобшуку на яго склалі пратакол. Маўляў, ён лаяўся на супрацоўнікаў КДБ. І цяпер яму пагражае адміністрацыйны арышт. Праўда, суддзя адправіў дакументы на дапрацоўку: у пратаколе не супадаў час.

Пасля затрымання Няфёдава сябры паспелі выдаліць яго з ліку адміністратараў суполкі. Таму доступу да яе Дзмітрый ужо не мае. І суполка працягвае працаваць.

Выдаленай аказалася і суполка грамадзянскай кампаніі «За Незалежную Беларусь». Пра гэта на правах ананімнасці паведаміў адзін з актывістаў кампаніі, «бо нас падазраюць у так званым падпале Дома правасуддзя. Пасля затрымання ва ўсіх нас былі праведзены ператрусы і забраныя камп'ютары і нават мабільныя тэлефоны». Аднаго з актывістаў, паведаміў Няфёдаў, спецслужбісты змусілі ўвесці свой акаўнт (гэта код: улікова запіс з персанальнай інфармацыяй карыстальніка, які дазваляе кіраваць сайтам) ад старонкі «За Незалежную Беларусь». Пасля гэтага былі выдаленыя ўсе адміністратары групы, а потым і сама група.

**Кастусь Матушыч**

**«Вконтакте»**

найпапулярнейшая сацыяльная сетка Расіі, якой карыстаюцца і ў краінах былога СССР. Яна дзейнічае па прынцыпе сусветнага аналага «Фэйсбук». «Вконтакте» дае магчымасць аб'ядноўвацца ў суполкі людзям з агульнымі інтарэсамі. Штодзённая наведвальнасць сайта складае 23 млн чалавек.

**Суполка «Мы за вялікую Беларусь!»**

дзейнічае тры гады і налічвае 123 000 удзельнікаў.

**Суполка «Марш мільёнаў»**

рыхтавала мірную акцыю пратэсту за адстаўку Аляксандра Лукашэнкі. Удзельнікі заклікалі распачаць яе 15 ліпеня на цэнтральнай плошчы Мінска.

**Суполка «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку»**

заклікае людзей проста выходзіць у пэўны час на галоўную плошчу свайго горада. Такім чынам адміністратары прапануюць выказваць свой пратэст супраць палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Ні пра якія гвалтоўныя дзеянні гаворкі ў суполцы не вядзецца.

## Адвакат Сапелка падпрацоўвае з праваабаронцамі

**Тым часам ліцэнзіі пазбавілі і жонку адваката Агеева.**

У лютым без працы засталіся пяцёра адвакатаў, якія баранілі экс-кандыдатаў і прадстаўнікоў іх штабоў. Павел Сапелка (адвакат Андрэя Саннікава, Паўла Севярынца), Алег Агееў (Алеся Міхалевіча), Уладзімір Тоўсцік, Тамара Гараева і Таццяна Агеева (усе трое баранілі Ірыну Халіп).

У дзеяннях Паўла Сапелкі прэзідыум Мінскай гарадской калегіі адвакатаў спачатку ўгледзеў парушэнні «патрабаванняў Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, Правілаў прафесійнай этыкі адваката, а таксама рашэнняў органа адвакацкага самакіравання», за што і выключылі яго з калегіі. А затым Міністэрства юстыцыі пазбавіла адваката ліцэнзіі ўвогуле.

Ад лютага Павел не можа ўладкавацца на працу. Ён паведаміў, што рассылаў рэзюмэ ў шэраг установаў, але запрашэнняў так і не было. «Каму патрэбны адвакат, якога выключылі з Калегіі?.. Супрацоўнічаю з праваабаронцамі».

Алег Агееў таксама працы не знайшоў: «У шэрагу арганізацый адмовілі». Ён паведаміў, што месяц таму адвакацкай ліцэнзіі была пазбаўлена і яго жонка Зарына Залеўская. Афіцыйна — за парушэнне парадку запаўнення пагадненняў. Але Алег звязвае гэта са сваёй дзейнасцю ў якасці адваката Алеся Міхалевіча.

Зарына Залеўская працавала ў Мінскай абласной калегіі адвакатаў. У працэсах над удзельнікамі падзей 19 снежня не ўдзельнічала. На мінулым тыдні жанчына падала скаргу ў суд. Пакуль яна нідзе не працуе.

Без працы застаецца і Таццяна Агеева. Больш за тое, у дачыненні да яе завялі дзве крымінальныя справы. Таццяне інкрымінуецца здзяйсненне злачынства, прадугледжанага ч.1 арт.380 (падробка, выраб, выкарыстанне альбо збыт падробленых дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў) і ч.2 арт.380 (падробка, выраб, выкарыстанне альбо збыт падробленых дакументаў, штампаў, пячатак, бланкаў, здзейсненыя паўторна або групай асобаў па папярэдняй змове) Крымінальнага кодэкса.

Паводле Мінюста, дзеянне ліцэнзій Алега Агеева і Таццяны Агеевай было спыненае «за грубыя парушэнні парадку афармлення пагадненняў на аказанне юрыдычнай дапамогі, перашкоды ліцэнзуючым органам у правядзенні мерапрыемстваў кантролю за выкананнем заканадаўства, якое выявілася ў прадстаўленні недакладных звестак». Уладзімір Тоўсцік і Тамара Гараева пазбаўленыя ліцэнзій «за грубыя парушэнні заканадаўства аб ліцэнзаванні, якія выявіліся ў адмове ад аказання юрыдычнай дапамогі Ірыне Халіп». Калі Гараева сама адмовілася ад працы з Халіп, спаслаўшыся на агульную занятасць, то ад Тоўсціка адмовілася журналістка. Як тады паведаміў яе бацька Уладзімір Халіп, гэты быў вымушаны крок. У адваката пагражалі забраць ліцэнзію. Што і зрабілі, пэўны час счакаўшы.

**Сяргей Макарэвіч**

## На рынку «Малінаўка» — папераджальная забастоўка

**Правесці яе вырашылі прадпрымальнікі, што працуюць на першым паверсе рынку.**

15 чэрвеня яны маюць выйсці на працоўныя месцы, але не працаваць.

Справа ў тым, што першы паверх уласнік хоча зачыніць і аддаць у арэнду «Еўрагандлю». Прадпрымальнікам выдадзеныя прадпісанні гэтыя плошчы вызваліць цягам месяца. Між тым, прадпрымальнікі лічаць, што маюць права захаваць сваю арэнду, бо заснавальнік будаваў яго за нашы пазыкі.

**СГ**

# Падслухоўванне людзей — норма?

**У Беларусі практыкай стала тое, што каштавала пасады прэзідэнту Ніксану.**

У сакавіку Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв’ю рэдактарам расійскіх СМІ заявіў, што тэлефон жонкі экс-кандыдата ў прэзідэнты Саннікава Ірыны Халіп 19 снежня праслухоўваўся.

«Вось глядзіце, Ірыну Халіп затрымалі, арыштавалі, яе білі, вось момант затрымання. І нібыта па тэлефоне яна — адгэтуль яны даюць гэта ў эфір — звоніць. Вось мяне там — такі лямант — мяне тут затрымалі, мяне б’юць, вось па пысе б’юць, ідзіце... Кантралююцца ўсе тэлефоны яе, а там, у гэты момант, седзячы ў машыне, ніхто яе не збіваў, яна тэлефануе ў гэты самы... я не ведаю каму, але гэта запісваецца ўсё...» — казаў Лукашэнка.

Пра факты праслухоўвання было вядома і раней. Але раней пра гэта не заяўлялі з гордасцю.

Пасля выбараў 2010 года прарвала. Першымі аб праслухоўванні экс-кандыдатаў і іх штабоў заявілі дзяржаўныя СМІ. Так, у дакументальным фільме БТ «Плошча. Жалезам па шклe» агучваліся тэлефонныя размовы Міколы Статкевіча, жонкі Уладзіміра Някляева Вольгі. Вольга Някляева падала скаргі ў Мінскі гарадскі суд, Генпракуратуру і КДБ. Яна патрабавала высветліць, на якой падставе праслуховаўвалі яе тэлефон. Адказ жанчына атрымала. У ім сказана, што ўсё адбывалася згодна з заканадаўствам — у рамках аператыўна-вышуковай дзейнасці.



PHOTO BYMEDIA.NET

**Праслухоўваліся тэлефоны не толькі кандыдатаў у прэзідэнты, але і іх блізкіх.**

У публікацыях «Советской Белоруссии» «За кулісамі адной змовы» друкаваліся нібыта тэлефонныя размовы даверанай асобы экс-кандыдата Рымашэўскага Дзяніса Садоўскага, даверанай асобы экс-кандыдата Раманчука Анатоля Лябедзькі ў ноч з 19 на 20 снежня. І сам факт, што апазіцыйных палітыкаў спрэс праслухоўваюць, пададзены як звычайная з’ява для спецорганаў.

Найбольш поўна карціна з праслухоўваннем пачала вымалёўвацца з пачаткам судовых працэсаў над удзельнікамі Плошчы. Так, размовы даверанай асобы Саннікава Дзмітрыя Бандарэнкі пачалі слухаць з верасня 2010 года — за тры месяцы да завядзення крымінальнай справы, па якой палітыка асудзілі!

На адным з працэсаў пракурор зачытаў раздрукоўку тэлефоннай размовы паміж экс-кандыдатамі Саннікавым і Някляевым, якая мела месца ў пачатку снежня 2010 года.

Праслухоўвалі тэлефоны экс-кандыдатаў Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса. 19 снежня непаўналетні сын Уса па дарозе ў краму падлічыў колькасць міліцэйскіх машын на вуліцы. І расказаў бацьку. Ус у тэлефоннай размове паведаміў пра тое Статкевічу. У далейшым гэтая размова фігуравала на судовым працэсе над абодвума палітыкамі. Дзеянні кваліфікаваліся пракурорам ледзь не як збор і распаўсюд сакрэтнай інфармацыі. Ус яшчэ падчас следства заяўляў, што праслухоўваннне вялося без санкцыі пракурора.

Факты праслухоўвання кандыдатаў у прэзідэнты і прадстаўнікоў іх каманд — не навіна 2010 года. Яшчэ ў 2001-м кіраўнік тэхналагічнага штаба Уладзіміра Ганчарыка Валянціна Палевікова заявіла, што іх размовы праслухоўваліся. У будынку Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, дзе размяшчаўся штаб Ганчарыка, былі знойдзены «жучкі».

Падчас выбарчай кампаніі 2006 года на БТ трансляваліся ўрыўкі з размоў даверанай асобы Аляксандра Мілінкевіча, Віктара Карняенкі. Перад тымі ж выбарамі «жучок» быў знойдзены ў брэсцкім офісе Мілінкевіча. Тады справа скончылася нічым. «Жучкі» аказаліся дзейнымі, пра што заявілі спецыялісты, але ў завядзенні крымінальнай справы пракуратура адмовіла.

У дэмакратычнай краіне праслухоўванне апазіцыі амаль гарантавана прывяло б да адстаўкі таго, хто праслухоўваў, і крымінальнай справы супраць яго.

**Сяргей Макарэвіч**

### Уотэргейтскі скандал

Хрэстаматыйнай стала гісторыя з Уотэргейтскім працэсам. У 1972 годзе разгарэўся скандал, які прывёў да адстаўкі прэзідэнта ЗША Ніксана. Усчалося ўсё ад таго, што ў офісе яго канкурэнта, кандыдата ў прэзідэнты ад Дэмакратычнай партыі ў комплексе Уотэргейт былі затрыманыя пяць чалавек. Яны займаліся наладкай праслухоўваючай апаратуры.

# Пракурорская парука

**Маладафронтавец Юльян Місюкевіч трэці месяц спрабуе высветліць, хто дазволіў праслухоўваць яго тэлефон.**

20-гадовы студэнт БДУ праходзіў у якасці сведкі па справе аб так званых масавых беспарадках 19 снежня 2010 г. І падчас чарговага допыту ў сакавіку яму далі праслухаць запісы яго тэлефонных размоў за лістапад—снежань мінулага года. Па словах Місюкевіча, большасць тых размоў адбылася да падзей на Плошчы. І яму незразумела, у рамках якой крымінальнай справы органы маглі яго «слухаць».

Юльян накіраваў зварот у Генеральную пракуратуру, дзе папрасіў паведаміць, калі і які пракурор даў дазвол на праслухоўванне. З Генпракуратуры зварот накіравалі ў пракуратуру Віцебскай вобласці (дапытваў Місюкевіча следчы з УКДБ па Віцебскай вобласці Бычак, які ў Мінску знаходзіўся ў камандзіроўцы). Там адказалі, што Бычак працаваў у складзе аператыўнай групы, якая займалася расследаваннем крымінальнай справы па «масавых беспарадках». І, маўляў, нагляд за законнасцю расследавання мае праводзіць пракуратура Мінска. Сталічная ж пракуратура адправіла зварот... ізноў у Генпракуратуру. Адкуль пачынаў маладафронтавец, туды і вярнуўся.

Юльян Місюкевіч абураны фактам праслухоўвання. «Раз ужо мае размовы слухаў КДБ, я хачу ведаць, якую небяспеку ўяўляю для краіны. Калі ж гэта былі незаконныя дзеянні, хай пракуратура разбярэцца з гэтым фактам», — кажа ён.

**КМ**

### Што кажа закон

Згодна з беларускім заканадаўствам, праслухоўванне адбываецца ў рамках правядзення аператыўна-вышуковай дзейнасці. Праслухоўванне тэлефонных размоў можа адбывацца без санкцыі пракурора ў выпадку «ўзнікнення пагрозы для здароўя, маёмасці грамадзян па іх заяве альбо з іх згоды ў пісьмовай форме». Пры гэтым трэба пісьмова паведаміць пракурору ці яго намесніку на працягу 48 гадзін.

Санкцыя ж выдаецца на падставе матываванай пастановы адпаведнага органа (выдае міністр унутраных спраў, старшыня КДБ, старшыня КДК, начальнік Службы бяспекі прэзідэнта, начальнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце, старшыня Памежнага камітэта, старшыня Мытнага камітэта, міністр абароны). Пастанова не патрэбная пры наяўнасці інфармацыі аб:

**1)** прыкметах злачынства, якое здзейснена, здзяйсняецца альбо якое рыхтуецца;

**2)** асобах, якія рыхтуюць, здзяйсняюць альбо здзейснілі злачынства;

**3)** падзеях альбо дзеяннях, якія ствараюць пагрозу нацыянальнай бяспецы РБ.

Але нават у гэтым выпадку пракурору альбо яго намесніку трэба пісьмова паведаміць аб гэтым цягам 24 гадзін і цягам 48 гадзін атрымаць санкцыю. Калі санкцыю не даюць, следчыя мусяць спыніць працу. Але ніяк не агаворана, што рабіць з матэрыяламі, назбіранымі за двое сутак: захоўваць у якасці доказаў ці выдаляць.

Сачыць за законнасцю дзеянняў павінна пракуратура. Па факце незаконнага праслухоўвання яна мае права нават распачаць крымінальную справу. У Генпракуратуры карэспандэнту «НН» паведамілі, што не ведаюць пра выпадкі, каб праслухоўванне адбывалася з парушэннем заканадаўства.

**КМ**

# Ідэолагі распускаюць чуткі пра замену даляраў

Амерыканцы друкуюць новыя грошы і рыхтуюць замену даляраў. Прычым замяніць старыя даляры на новыя адзін на адзін можна будзе толькі ў выпадку, калі яны ляжаць на банкаўскіх рахунках. Наяўныя даляры мяняцца не будуць.

Дык вось, калі ў каго даляры ляжаць дома, у таго яны прападуць. Таму варта занесці даляры ў банкі.

Рэпарцёр «Нашай Нівы» чуў гэтую «інфармацыю» ад некалькіх асобаў, што працуюць на розных прадпрыемствах Мінска. У абодвух выпадках такую параду яны атрымалі ад заводскіх ідэолагаў.

Як вядома, платныя пасады ідэолагаў існуюць на ўсіх прадпрыемствах і ва ўстановах краіны. Імаверна, гэтыя людзі маюць чарговае заданне пераканаць калег у мэтазгоднасці вярнуць грошы ў банкі. Застрашаныя фінансавым крызісам, беларусы масава пазнімалі валюту і рублі з рахункаў. Рублі імкліва абясцэньваліся, а наконт валюты людзі баяліся дэфолту.

Золатавалютныя запасы Беларусі знізіліся да крытычнага ўзроўню, у выніку чаго Нацбанк быў вымушаны дэвальваваць рубель амаль на 60%. Тым не менш, валюты ў абменніках усё адно няма, а курс чорнага рынку на 20% перавышае афіцыйны.

Варта адзначыць, што, у адрозненне ад СССР, ЗША абмену грошай ніколі не рабілі.

Дагэтуль прымаюцца любыя банкаўскія білеты, выпушчаныя амерыканскім урадам за ўвесь час існавання Злучаных Штатаў.

**Сяргей Прытыцкі**

# «Пакрытыкаваў Лукашэнку па тэлефоне — два мільёны запазычанасці на рахунак»

Новыя гарадскія легенды ці псіхалагічная вайна спецслужбаў? Піша **Сямён Печанко**.

Брэсцкі журналіст Алесь Ляўчук апісвае гісторыю, пачутую ў часе вулічнага апытання. Жанчына ў маршрутцы пачала крытыкаваць Лукашэнку. Мужык, які сядзеў побач, паказаў ёй пасведчанне супрацоўніка КДБ і вывеў з машыны. І больш яе ніхто не бачыў.

У Горках расказваюць іншую гарадскую легенду. Хтосьці па тэлефоне кепска гаварыў пра Лукашэнку. А потым атрымаў sms-кай паведамленне, што на ягоным рахунку запазычанасць у 2 мільёны.

Падобныя байкі, якія ўкладваюцца ў схему «кепска казаў пра Лукашэнку — дрэнна скончыў», з'яўляюцца па ўсёй краіне. І іх завостранасць на непазбежнай кары за крытыку на адрас улады наводзіць на пэўныя думкі. Стварaецца ўражанне, што на тле пагаршэння эканамічнага становішча падобныя чуткі распаўсюджваюцца з мэтай адбіць ахвоту крытыкаваць. Распаўсюджванне чутак — для спецслужбаў рэч не новая, разважае паспаліты чалавек: напрыклад, КГБ СССР, як пішуць даследчыкі, такое практыкаваў.

Чымсьці з'яўленне «легенд» нагадвае сітуацыю з красавіцкім выбухам у метро, калі на наступны дзень пасля тэракта ў інтэрнэце і па тэлефонах пачалі разыходзіцца чуткі пра выбухі ў грамадскім транспарце. Тады ў прэсе з'явілася паведамленне пра надзвычай аператыўнае затрыманне некалькіх «распаўсюднікаў правакацыйных чутак, што сеялі ў Мінску паніку». Нібыта іх змясцілі ў СІЗА і ім пагражала крымінальная адказнасць. Але потым пра лёс затрыманых больш не паведамлялі, а вось хваля чутак хутка спала. Гэта дало нагоду думаць, што нікога, магчыма, і не затрымлівалі...

Калі гэта і быў адмысловы «ўкід» інфармацыі, яго можна было яшчэ вытлумачыць неабходнасцю перадухіліць масавую паніку пасля жудаснай трагедыі ў метро. Іншая рэч — выкарыстоўваць чуткі, каб запалохаць абураных беларусаў.

Зрэшты, такія «гарадскія легенды» могуць з'яўляцца і без усякіх інспірацый ва ўмовах рэпрэсій за палітычныя перакананні і адсутнасці свабоды слова ў краіне.




# З'ешце мыла, бо падзешавела

Дзяржаўны канал АНТ ва ўпор не бачыць крызісу ў Беларусі.

«Адэкватнасць. Менавіта гэтую рысу, нароўні з талерантнасцю, можна назваць асноўнай у беларусаў. Бо складаныя часы для краіны ўжо былі — у пачатку 90-х, на світанку самастойнасці рэспублікі. Перажылі. Сусветны крызіс перажылі. Перажывём і цяперашнія праблемы. А таму меры, прапанаваныя прэзідэнтам Лукашэнкам, яго выбаршчыкі разумеюць і падтрымліваюць...» — так пачынаецца сюжэт, паказаны па АНТ на мінулым тыдні.

Ён быў прысвечаны сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне і, у найлепшых традыцыях савецкай прапаганды, даваў адлуп «варожым галасам». Бадзёры закадравы голас абвяргаў паклёп, які яны ўзводзяць на беларускую рэчаіснасць: «Людзі праводзяць выходныя ў парках, а не ў чэргах да касы, як апошнім часам любяць казаць расійскія сродкі масавай інфармацыі».

Нібы мантра паўтараліся словы пра спакой і стабільнасць. Пасланне яўна было скіраванае на грамадзян, звыклых мысліць спажывецкімі катэгорыямі. Менавіта іх абурэння і бунту ўлада баіцца найбольш: «Стравы разнастайныя. Цэны даступныя»...«У крамах сітуацыя звычайная»...«Прылаўкі поўныя. Ажыятаж прайшоў»...«Прэзідэнт запатрабаваў, каб усе патрэбныя тавары былі на паліцах».

Аднак адказаў на простыя пытанні — чаму з абменнікаў зніклі даляры, чаму на 50% абясцэніўся рубель, чаму падскочылі цэны, а індэксацыя заробкаў мізэрная — у бадзёрым сюжэце не было. Дый хто сказаў, што ўсё даражэе? АНТ радасна рапартавала пра тое, што, напрыклад, падзешавела... мыла! Па ўказанні прэзідэнта яго будуць прадаваць з гандлёвай нацэнкай 10% замест 30%. Ну як тут не паверыш, што «ажыятаж, які перажыла краіна, быў выдавочна надуманым. І нават зрэжысаваным»?

Народу ж сапраўды ўласцівая адэкватнасць. Пэўна, не адзін дзясятак беларусаў, з'еўшы АНТ-шнага «мыла», закупіўся таннейшымі прадуктамі ці сотняй-другой даляраў праз «Пракаповіча».

**Сяргей Мікулевіч**

# Аднаго зловяць — дзесяць на лапу возьмуць

Што ні тыдзень — то новы «адкатны» скандал у краіне. Нядаўна быў затрыманы генеральны дырэктар ЗАТ «Трэст БелПСПстрой» Віктар Філіпаў. Аксакала будаўнічага бізнэсу вінавацяць у вымаганні 21300 даляраў з фірмы за перамогу ў тэндары на рэканструкцыю Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па тэнісе. На гэтым тыдні з'явілася новая інфармацыя: па абвінавачанні ў вымаганні «адкату» за перамогу ў тэндары на будаўніцтва Навучальна-трэніровачнага цэнтра фрыстайла затрыманы супрацоўнік ААТ «Мінскпрамбуд». Паводле следчых, перамога «каштавала» 270 млн рублёў. Усяго на цэнтр фрыстайла мае быць выдаткавана 100 млрд рублёў бюджэтных грошай.

Негалосна людзі расказваюць пра дзясяткі такіх выпадкаў. На раённым узроўні чыноўнік вымагае мільён, на абласным — дзесяць. І ніякім нарошчваннем кантрольных органаў гэтага не спыніць. Аднаго зловяць — дзесяць на лапу возьмуць.

А як інакш магло быць, калі гэткі крадзеж узаконены на рэферэндуме 1996 года — адмоўным адказам на пытанне «ці згодныя вы, каб фінансаванне органаў улады ўсіх узроўняў адбывалася галосна і толькі з бюджэту»? І ці будзе баяцца грамадскай рэакцыі чыноўнік, не выбарны, а вертыкальна прызначаны?

Толькі празрыстасць фінансавання і кантроль грамадства за чыноўнікамі праз незалежныя СМІ ратуюць ад карупцыі. Ад той самай карупцыі, якая змушае браць мільярдныя крэдыты і рабіць пазыкі, разлічвацца з якімі будуць дзеці і ўнукі.

**СМ**

МОВА—2011

# «Паязды» замест «цягнікоў»

Я ўжо звыкся, што беларуская мова ў нашай краіне на другасным плане, аднак заўсёды радаваўся таму, што на чыгуначным вакзале робяць аб'явы па-беларуску. Але сёння, калі я завітаў на вакзал (натуральна, каб паглядзець на вырхал каля абменнікаў:-), то пачуў, як там аб'яўляюць: «прыгарадны поезд». Я спачатку падумаў, што недачуў, але потым яна аб'явіла пра «хуткі поезд». Потым ішоў дубляж па-расійску.

А раней гаварылі «цягнік».

Гэта абуральна, бо вакзал — гэта ж твар краіны.

А ў метро яны ўжо даўно гавораць «поезд далей не ідзе».

**Сяржук, tut.by**

**Ад Рэдакцыі:** Слова «поезд» у значэнні «цягнік» з'явілася ў беларускіх слоўніках з пачаткам савецкай русіфікацыі, што мела на мэце наблізіць беларускую мову да расійскай і ў перспектыве зусім знішчыць яе.

ЦЁЗКІ

## Слуцкі БРСМ прапануе працу ў «Нашай Ніве»

На час летніх канікул фармуюцца будатрады, якія будуць працаваць у тым ліку на падсобнай гаспадарцы «Наша Ніва», што належыць слуцкаму мясакамбінату.

Райкам слуцкага БРСМ запрашае мясцовую моладзь на час летніх канікул папрацаваць у студэнцкіх і сельскагаспадарчых атрадах, паведамляе «Інфа-кур'ер», У першы могуць запісацца асобы ад 18 год, у другі — ад 14-ці.

Моладзі прапануецца праца на кансервавым заводзе, падсобнай гаспадарцы «Нашай Нівы», што належыць ААТ «Слуцкі мясакамбінат». Будаўнічы атрад будзе працаваць на пабудове малочнатаварнай фермы ў вёсцы Забалаць Слуцкага раёна.

**«Інфа-кур'ер», Слуцк**

НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІШТО НЕ ЗАБЫТАЕ

## Лукашэнка: да 2015 года заробак вырасце да 1000 даляраў

«Да 2015 года мы павінны наблізіць памеры сярэдняй зарплаты да 1000 даляраў у эквіваленце.

Гэта самыя высокія ў нашай гісторыі тэмпы росту заробку і даходаў насельніцтва, — паабяцаў Лукашэнка. — Вядома, зарплата ў 500 даляраў ці нават у 1000 меншая, чым еўрапейскі ўзровень. Але гэта толькі калі лічыць яе намінальнае значэнне. Аднак нельга не ўлічваць, што дзяржава добраахвотна ўзяла на сябе значную частку выдаткаў, звязаную з сацыяльным забеспячэннем грамадзян».

**Гэта цытата з выступу кіраўніка дзяржавы на г.зв. Усебеларускім сходзе ў снежні 2010 г.** Да прэзідэнцкіх выбараў заставалася 13 дзён.

Пасля афіцыйнай разавай дэвальвацыі беларускага рубля 23 мая 2011 г. сярэдні заробак цяпер складае 312 даляраў у эквіваленце, калі па афіцыйным курсе, і каля 250 даляраў па курсе чорнага рынку.

**АГ**

# Аўтамабільная рэвалюцыя ў Мінску



Пратэст аўтамабілістаў супраць падаражання паліва перарос у выказванне агульнага незадавальнення сітуацыяй у эканоміцы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Пратэст супраць росту цэнаў: у аўторак сотні аўтааматараў заблакавалі праспект Незалежнасці ў Мінску.**

7 чэрвеня мінскія аўтамабілісты зладзілі акцыю пратэсту супраць падаражэння паліва. ДАІ і АМОН былі бяссільныя супраць соцень машын: на некалькі гадзін рух на цэнтральным праспекце сталіцы быў блакаваны.

Калона аўто з уключанай аварыйнай сігналізацыяй і сімволікай акцыі «Стоп бензін!» — выявай чалавечка, які «страляе» сабе ў скроню з запраўнага пісталета ці белай стужкай на антэне — расцягнулася ад Галоўпаштамта да Цэнтральнага ўніверсама. Насустрач ёй рухалася другая калона, што займала праспект між плошчамі Якуба Коласа і Перамогі. Трэція групы аўтааматараў выехалі на праспект у раёне цырка. Кіроўцы спыняліся, утвараючы лакальныя заторы, падымалі капоты. Хто-ніхто ставіў на дахі аўто пустыя каністры або проста выходзіў і здымаў на мабільнік мора машын.

Крайнюю правую паласу праспекта Незалежнасці арганізатары акцыі — грамадзянская ініцыятыва «За аўто» — заклікала пакідаць вольнай для руху грамадскага транспарту. Не заўжды гэта ўдавалася. Аднак ніхто не пераймаўся: пасажыры выходзілі з аўтобуса і... апладзіравалі ўдзельнікам акцыі. Гледачоў сабраліся сотні: людзі махалі аўтамабілістамі, крычалі «Стоп бензін!», пасля пачалі «ахвяраваць» на паліва — на машыны пасыпаліся дробныя рублёвыя купюры. «Гэта ўжо не грошы, а фанцікі, за іх нічога не купіш!» — казалі яны.

Нашы рэпарцёры не зафіксавалі ніводнай негатыўнай рэакцыі.

На мост цераз Свіслач у знак падтрымкі з'ехаліся дзясяткі раварыстаў. Салідарнасць аб'яднала дарожных «працаўнікаў».

Аўтамабілісты блакавалі міліцэйскія эвакуатары, якія спрабавалі адцягнуць машыны, што спыняліся. Дзе-нідзе даішнікі пад агульны смех спрабавалі адкаціць аўто уручную. ДАІ дзейнічала без агрэсіі, АМОН бязмолстваваў. Каля крамы «Каравай» сумаваў незадзейнічаны аўтазак.

У натоўпе на тратуары ля ГУМа апынуліся замежнікі, мяркуючы па акцэнце, немцы. Яны спыталіся ў жанчыны, што стаяла побач з рэпарцёрам «НН»: што адбываецца? Жанчына адказала ім коратка: падаражанне паліва. «Тут блізка рэзідэнцыя кіраўніка дзяржавы, — запыталіся немцы, — няўжо беларусы не баяцца пратэставаць?» — «Раней баяліся, бо жорстка разганялі, — сказала кабета, — але цяпер сітуацыя ў краіне такая, што страх знік». «Давялі народ да крайнасці», — падсумавала яна.

**Сямён Печанко, Алесь Пілецкі, Сяргей Мікулевіч**

**Фоты і відэа на сайце NN.BY**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Людзі на праспекце віталі аўтааматараў.**



# Другі Тур

**Працяг са старонкі 1**

У ролiку Андрэй Тур моцна нападпітку. Намеснік міністра эканомікі адбіваецца ад наскокаў іншых гасцей, сярод якіх жонка палітвязня Аляксандра Атрошчанкава Дар'я Корсак і жонка палітвязня Міколы Статкевіча Марына Адамовіч. Тура падтрымлівае хамаваты малады журналіст з АНТ Аляксандр Мацяс.

Тур спрабуе адказаць на абвінавачванні ў тым, што ўлады пагрузілі паўкраіны ў галечу, але не паспявае за ходам думак суразмоўцаў.

«У мяне гадавы абарот $11 мільёнаў. Чаму я закладваю сваю кватэру ў банку, каб разлічыцца з пастаўшчыкамі?» — пытаецца у чыноўніка прадпрымальнік. На з'едлівыя каментары Дар'і Корсак Тур мацюкаецца і заяўляе той: «Адвалі!»

Пасля справа даходзіць і да бізнэсоўца. «Я табе сказаў: ты жывеш не па сродках», — кажа Тур словамі Лукашэнкі. Прадпрымальнік перапытвае, але адказу не атрымлівае: «Вы хацелі нешта пачуць? Хацелі. Вось дзякуючы гэтай даме і гэтай даме вы нічога не пачуеце. Вы сябе ўжо пакаралі», — заяўляе Тур і сыходзіць.

Ніякай афіцыйнай рэакцыі на скандальны ролік не было, прынамсі, па стане на аўторак.

А вось сам Андрэй Тур у інтэрв'ю «Салідарнасці» заявіў, што відэа — правакацыя. «Я думаю, што гэта спецзаказ. Незразумела, як здымалі... Гэта не інтэрв'ю, гэта нішто — гэта чыстай вады падстава і правакацыя», — заявіў чыноўнік і кінуў слухаўку.

Бізнэсовец Андрэй Кабанаў, які здымаў відэа, кажа: Тур бачыў, што яго здымаюць. «Гэта не ўсё, што я выклаў. Ёсць матэрыялы, я іх захаваў на серверы», — намякае ён на магчымы працяг «відэасустрэч» з намеснікам міністра эканомікі.

«Адказу не атрымаў ні я, ні грамадзяне нашай краіны. Гэта проста хамскае стаўленне да народа ў асобе намесніка міністра эканомікі. Так мы жывём, так намі кіруюць», — падсумоўвае Андрэй Кабанаў.

**Віталь Несцераў**

Нагадаем: Лукашэнка хоча зачыніць «Нашу Ніву» і «Народную Волю»

# Што рабіць чытачам?

Просім дасылаць лісты пратэсту. **Старонка 2.**
А каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміць Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

Кампанія Ford пачала кампанію рэкламы на беларускай мове.

Тэмай першай рэкламнай кампаніі Ford на беларускай мове стане якасць абслугоўвання ў фірмовым сэрвісным цэнтры.

«Наша задача — быць бліжэйшымі да беларусаў», — кажа кіраўнік аддзела маркетынгу афіцыйнага імпарцёра Ford у Беларусі кампаніі «Атлант М Вест» Сяргей Скляраў.

Кампанія Ford нават плануе правядзенне ў аўтацэнтры «Атлант М Баравая» Ford адмысловы, «дзён беларускай мовы»? у рамках якіх зносіны работнікаў цэнтра з кліентамі будуць адбывацца ў асноўным па-беларуску.

**АП**

# Ford беларусізуецца



# Добраахвотна-прымусова

У школах Заводскага раёна Мінска «арганізавалі» падпіску на дзяржвыданні на 284 мільёны рублёў.

У Рэдакцыю «НН» трапіў ліст са спісам школ і пералікам газет і часопісаў, на якія ім трэба падпісацца.

Дакумент, на якім стаіць віза «зацвярджаю» начальніка ўпраўлення адукацыі Заводскага раёна Мінска Аксаны Няхайчык, называецца «Інфармацыя аб арганізацыі падпіскі на другое паўгоддзе ва ўстановах адукацыі Заводскага раёна (план)». Згодна з планам, 42 навучальныя ўстановы раёна мусяць выпісаць 25 газет і часопісаў. Сярод іх як профільныя выданні — «Настаўніцкая газета», «Сталічная адукацыя», «Мінская школа», «Роднае слова», так і афіцыйныя грамадска-палітычныя — «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Звязда» і нават «Во славу Родины». А таксама часопісы «Планета» і «Беларуская думка».

Колькі каштуе «арганізаваная» аддзелам адукацыі падпіска?

Камплект выданняў з 25 адзінак на паўгода каштуе 2 125 000 рублёў. Аднак, згодна з планам, некаторыя выданні выпісваюцца школамі не ў адзінкавых экзэмплярах. Напрыклад, «Настаўніцкую газету», «Юный спасатель» і часопіс для маленькіх «Качели» большасць школаў выпісвае дзясяткамі — ад 15 да 45 асобнікаў кожнага з выданняў.

«УТВЕРЖДАЮ»:
Начальник
управления образования
__________ О.В.Нехайчик

**ИНФОРМАЦИЯ**
**об организации подписки на второе полугодие 2011 года в учреждениях образования Заводского района (план).**

| | «Вясёлка» | [illegible] | «Зорька» | «Вечерний Минск» | «Юный спасатель» | «Народная газета» | «Роднае слова» | «Качели» | «Столичное образование» | «Планета» | «Беларуская думка» | «Переходный возраст» | «Минский курьер» (полоса) | «Минская школа» | «Наст. газета» | «Знамя юности» | «Советская Белоруссия» | [illegible] | «Республика» | «Звязда» | «Лит и мастацтва» | «Маладосць» | «Полымя» | «Неман» | «Во славу Родины» |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| СШ № 5 | 5 | 1 | 4 | 4 | 15 | 1 | 1 | 15 | 3 | 1 | 2 | 4 | 6 | 6 | 10 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| СШ № 8 | 7 | 1 | 5 | 5 | 25 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 3 | 5 | 7 | 6 | 15 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| Гим. № 14 | 7 | 1 | 5 | 5 | 30 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 5 | 5 | 7 | 10 | 25 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 | 1 |
| Гим. № 21 | 12 | 2 | 7 | 5 | 45 | 2 | 1 | 25 | 3 | 1 | 5 | 6 | 8 | 10 | 30 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 | 1 |
| Гим. № 25 | 7 | 1 | 5 | 5 | 25 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 4 | 5 | 7 | 9 | 15 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 | 1 |
| НШ № 39 | 5 | 1 | 7 | 4 | 20 | 1 | 1 | 15 | 3 | 1 | 2 | 4 | 6 | 6 | 10 | 1 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| СШ № 43 | 7 | 1 | 5 | 5 | 30 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 3 | 5 | 7 | 9 | 25 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 | 1 |
| СШ № 46 | 7 | 1 | 5 | 5 | 25 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 3 | 5 | 7 | 8 | 15 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 3 | 3 | 3 | 3 | 1 |
| СШ № 58 | 5 | 1 | 4 | 4 | 15 | 1 | 1 | 15 | 3 | 1 | 2 | 4 | 6 | 6 | 10 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 1 |
| СШ № 68 | 7 | 1 | 5 | 5 | 25 | 2 | 1 | 20 | 3 | 1 | 3 | 5 | 7 | 8 | 15 | 2 | 2 | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 | 4 |

Усяго ж падпіска на другое паўгоддзе будзе каштаваць школам Заводскага раёна прыблізна 285 мільёнаў рублёў.

Як расказала адна з мінскіх настаўніц, што працуе ў Фрунзенскім раёне, асноўны цяжар аплаты такой падпіскі кладзецца на шараговых настаўнікаў. «Пасля таго як РАА даводзіць план да кожнай школы, заданне размяркоўваецца паміж настаўнікамі. Часам здараюцца кур'ёзныя выпадкі, калі тых жа «Настаўніцкіх» на школу выпісваюць больш, чым у ёй працуе настаўнікаў».

А адзін з супрацоўнікаў Рэдакцыі, дзіця якога вучыцца ў Савецкім раёне, прывёў прыклад, як у ягонай школе ад бацькоў патрабавалі выпісваць «Юный спасатель» пад пагрозай санкцый супраць дзяцей.

**Сямён Печанко**



# Тэлеканал ТНТ абмежавалі за жарт пра вусатага сабаку?

1 чэрвеня найбуйнейшы кабельны аператар Мінска МТІС пусціў у эфір замест расійскага канала ТНТ невядомы English Club TV (Клуб англійскай мовы).

Тэлеаператар, паслугамі якога карыстаюцца 560 тысяч сем'яў, памяняў частоты некаторых каналаў. Такія «сюрпрызы» МТІС рабіў і раней, але справа абмяжоўвалася перастаноўкай каналаў з месца на месца. А вось ТНТ з базавага пакета беззваротна знік.

Цяпер канал даступны для прагляду толькі ў раёнах, дзе пракладзенае новае абсталяванне, і толькі ў тых абанентаў, якія маюць найноўшыя мадэлі тэлевізараў ці спецыяльныя прыстаўкі. Такіх — не больш за 5%.

ТНТ — забаўляльнае расійскае тэлебачанне, у эфіры якога — толькі серыялы і шоу. Некаторыя скандальныя праектаў, такія як Comedy Club і «Дом-2», вынеслі ТНТ на вяршыню папулярнасці.

ТНТ, у адрозненне ад іншых расійскіх каналаў, рэтрансляваных у Беларусі, не цэнзуруваўся. Жарты ад вядучых канала, у тым ліку і тыя, якія датычацца асабіста Аляксандра Лукашэнкі, паказваліся без выразанняў. У адной з перадач месяц таму гумарысты Comedy Club фантазіравалі на тэму «беларускай аўчаркі з вусамі», якая замест «гаў, гаў» гаўкае «газ, газ». Такога намёку расіянам маглі і не прабачыць.

Ёсць і яшчэ адна версія. Ліцэнзія на трансляцыю канала дарагая. І, у прынцыпе, можна паверыць, што МТІС такім чынам заахвочвае гледачоў пераходзіць на даражэйшае лічбавае тэлебачанне, каб кампенсаваць страты аператара.

Тым часам ТНТ не паказвае і другая папулярная кампанія — «Космас-ТВ».

Гледачы настроены сур'ёзна. У першы ж дзень пасля адключэння ТНТ тэлефоны кампаніі не вытрымлівалі колькасці ахвотных паскардзіцца на дзеянні МТІСа.

**Яўген Васількоў**

# «Далі нам індэксацыю — на пару ўпаковак туалетнай паперы!»

Бюджэтнікам пачалі выплачваць індэксацыі да заробкаў. Па 40 тысяч рублёў.

У рэдакцыю «НН» прыйшоў ліст ад чытача з Брэсцкай вобласці. Ён піша, што працуе ў бюджэтнай арганізацыі, ягоная жонка таксама. На днях атрымалі разліковыя лісты. Абаім да заробку налічылі індэксацыю 40 000 рублёў. Чытач піша, што індэксацыя аднаразовая. «На пару ўпаковак туалетнай паперы хопіць!» — іранізуе ён. Іншы падпісчык «НН» з Гродзеншчыны паведаміў, што ім таксама мусяць даплаціць па 40 тысяч, а ў наступным месяцы нібыта ажно па 130 тысяч.

Пра індэксацыю заробкаў у сувязі з ростам цэнаў заявіла міністр працы і сацыяльнай абароны Марыяна Шчоткіна. Паводле закона аб індэксацыі прыбыткаў, яна выплачваецца ў выпадку росту цэнаў больш чым на 5%. Памер індэксацыі залежыць ад бюджэту пражытковага мінімуму (БПМ). Беларусам пачалі выплачваць кампенсацыю ў лютым, тады яна складала 15 тысяч. Цяпер, з улікам росту БПМ, памер індэксацыі — каля 25 тысяч. У суме маем трошкі больш за 40 тысяч. Па курсе Нацбанка гэта складае каля 8 далараў.

Тым часам сярэдні заробак беларусаў у даляравым выражэнні скараціўся да $317. Такім чынам, страты сярэдняга беларуса ад падзення заробкаў амаль у 20 разоў перавышаюць прапанаваную дзяржавай індэксацыю.

**СП**

# Бельгійская мастачка беларускай школы

**Яна з'ехала за мяжу, так і не атрымаўшы дыплом мастака. А сёння яе карціны выстаўляюцца ў Брусэлі, Амстэрдаме, Лондане…**

Вольга Гуськова нарадзілася ў Расіі. Апошнія пятнаццаць гадоў жыве ў Бельгіі. А паміж гэтымі краінамі была Беларусь, дзе і раскрыўся яе талент.

Вольга пакінула Беларусь у 1996 годзе. У Мінску пазнаёмілася з бельгійцам. Ён паклікаў дзяўчыну замуж. Так і з'ехала на радзіму мужа. Вольга нават вучобу не паспела скончыць — заставалася зрабіць дыпломны праект. А ў Бельгіі ўсе яе дакументы аб сярэдняй і незакончанай вышэйшай адукацыі прыраўнялі толькі да атэстата выпускніцы школы.

Вольга кажа, у Бельгіі склаўся стэрэатып, што мастакамі становяцца самыя лянівыя вучні. Тым не менш, да мастацтва хочуць дакрануцца многія. Як вынік — яе карціны ўпрыгожваюць прыватныя і музейныя калекцыі.



**Вольга Гуськова**

Нар. у 1974 у Маскве. З двухгадовага ўзросту жыла ў Беларусі. Спачатку ў Вілейцы, пасля ў Мінску. Скончыла гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка. Вучылася ў Акадэміі мастацтваў. Ад 1996 жыве ў Бельгіі (Бругe). Персанальны сайт www.olga-gouskova.be.

### З Масквы — у беларускую правінцыю

У Беларусь бацькі Вольгі прыехалі ў 1976 годзе пасля сканчэння Маскоўскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя Баўмана. Іх размеркавалі на вілейскі завод «Зеніт». Вользе тады было два гадкі. У Вілейцы яна пайшла спачатку ў садок, а затым і ў школу. А ў 1985 годзе паступіла ў сённяшнюю гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка. Затым была Беларуская акадэмія мастацтваў, выезд у Бельгію.

Калі з'язджала за мяжу, для сябе вырашыла, што працаваць там прыбіральшчыцай альбо кімсьці падобным не будзе, як часта здараецца з эмігрантамі з былога СССР. Па прыездзе не працавала, бо зацяжарала. Нарадзіла сына Рудольфа. Пасля вучыла фламандскую мову (веданне англійскай дазволіла не трапіць у моўнае гета). Асвойвала камп'ютар і графічныя праграмы. А калі ўладкоўвалася на працу, выбрала фірму, якая выпускала паштоўкі. Так пачалася кар'ера дызайнера. Затым змяніла профіль — распрацоўвала абутак. Але ўсё-такі зноў вярнулася да паштовак. Толькі ўжо ў іншую фірму, дзе працуе дызайнерам-фрылансерам і сёння. Непрывязанасць да офіса Вольгу задавальняе. Больш часу можна аддаваць дзецям. Ды і на колькасці замоў гэта не адбіваецца — яны ёсць пастаянна.

Вольга расказвае гісторыю з нараджэннем дачкі Яры. Ужо на трэці дзень пасля родаў ёй патэлефанавалі з фірмы, каб спытацца наконт замовы. А калі пачулі, што Вольга ў раддоме, моцна здзівіліся. Бо ўсе кантакты адбываюцца пераважна праз інтэрнэт. Таму ніхто не бачыў жанчыну цяжарнай.



### Шматмоўная сям'я

Другі муж Вольгі — басняк Энсар. Ён працуе ў хімічнай прамысловасці. Сын Рудольф — 13 гадоў — школьнік. Дачцэ Яры — 2 гады.

У Рудольфа творчае мысленне пераплятаецца з тэхнічным, як адзначае жанчына. Яшчэ дзіцёнкам ён пачаў маляваць. Пераважна гэта былі будынкі, але абавязкова на іх знаходзілася месцы для разетак, іншых тэхнічных рэчаў.

Дачка яшчэ зусім маленькая, каб гаварыць пра схільнасць да малявання. Але і яна ўжо бярэ ў рукі пэндзаль. Праўда, пятнаццаці хвілін дастаткова, каб задаволіць прагу да мастацтва.

Вольга заўважае, што не трэба дзяцей штурхаць надта да малявання ці да іншых заняткаў. Гэта павінна адбывацца асэнсавана. Саму мастачку ў дзяцінстве бацькі аддалі ў музычную школу, што ёй не надта падабалася. Грала на скрыпцы. А пасля нехта падказаў паўдзельнічаць у конкурсе малявання, пераможцы якога дапускаліся да экзаменаў у гімназію-каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка. Дзесяцігадовая дзяўчынка ў тым конкурсе ўбачыла магчымасць пакінуць Вілейку, каб вызваліцца ад музычнай школы. У каледж паступіла. Але з часам зразумела, што дарма адмовілася ад заняткаў музыкай. І ўжо цяпер свайго сына адправіла ў музшколу — іграе на гітары.

Сям'я Вольгі — шматмоўная. Калі нарадзіўся сын, жанчына размаўляла з ім па-руску, бацька бельгіец — па-фламандску. А ўжо калі ўсе разам збіраліся — па-англійску. Сёння Рудольф вывучае яшчэ і французскую.

З дачкой крыху па-іншаму. Другі муж размаўляе з ёй па-сербахарвацку, Вольга — па-расейску. А ўсе разам — на фламандскай мове.

### Першыя паразы і перамогі

Жанчына прыгадвае сваю першую спробу мастацкай выставы ў Бельгіі. Ішоў адбор твораў для вернісажу. Вольга прынесла тры свае габелены. Ніводзін не прынялі. Яна адзначае, што па выгляду журы можна было зразумець, што да яе прац паставіліся як да самаробных камізэлек. Маўляў, нічога арыгінальнага. Гэта засмуціла. Але праз год ужо прыйшла з напісанымі карцінамі. Тады падумала, калі і на гэты раз нічога не выйдзе, маляваць перастане — рукі апусцяцца. Але з трох прапанаваных карцін прынялі адразу дзве. Жанчына адзначае, што ахвотных паўдзельнічаць у вернісажы былі сотні мастакоў. А ў выніку выбралі толькі 70 прац.

Яшчэ большы імпэт надаў продаж карціны — жанчыны з сінімі нарцысамі. «Усе хочуць маляваць і жыць са сваіх прац», — тлумачыць рынкавыя адносіны ў мастацтве. З таго часу на яе карціны ёсць пастаянны попыт. Але Вольга не ператварае занятак мастацтвам у канвеерную працу.

У яе няма агента, які займаўся б арганізацыяй выстаў і пошукам пакупнікоў. Спачатку сама шукала «выхады». Цяпер, калі яе ведаюць (хаця і не залічвае сябе да мегавядомых мастакоў нават у Бельгіі), ахвочыя займець яе карціны прыязджаюць самі.

Вольга — мастак жаночых вобразаў. На яе карцінах — пераважна жаночае цела. Са свайго беларускага студэнцтва прыгадвае выкладчыка Назарэнку. Яго пастановачныя малюнкі, натуршчыц. Цяпер, калі ў цэнтры ўвагі Вольгі жанчына, яна не піша з натуры. Вобраз прыходзіць сам. Гэта не беларускі і не бельгійкі. Агульны вобраз.

### Час вяртацца?

У Бельгіі Вользе не хапае беларускай прыроды. Лесу, рэк... Там паркам называюць невялікае насаджэнне з кустоў. Узгадвае, як набыла латок клубніцаў і за раз з'ела. Муж расхвальваўся, маўляў, яе ад ягад высыпе. Жанчына толькі рассмяялася. Бо яе маці вырошчвала клубніцы на 4 сотках, і есці іх магла значна больш.

У Вольгі два пашпарты — бельгійскі і беларускі. Ці гатовая яна вярнуцца ў Беларусь? Наўрад ці. Ды і не пачувае сябе беларускай (бацькі расійцы), хаця і расіянкай таксама не пачувае, бо не жыла ў Расіі. І бельгійкай, адзначае, ніколі не стане. Расказвае, як свякроў прапанавала пераехаць жыць у Боснію. Мастачка заўважае, што калі сапраўды паўстаў бы такі выбар, то вярнулася б у Беларусь усё-такі.

Дачка Яра — беларуская грамадзянка. Сын Рудольф — грамадзянін Бельгіі. Вольга неяк прапанавала сыну атрымаць беларускі пашпарт. Але папярэдзіла, што пры наведванні Беларусі могуць тады забраць у войска. Ён узрадаваўся: «Класна, на знішчальніках буду лётаць!» Жанчына расказала пра нашы рэаліі. І Рудольф адмовіўся.

...У першы свой прыезд за апошнія дзевяць гадоў у Беларусь Вольга Гуськова наведала апошні званок у гімназіі-каледжы імя Ахрэмчыка. Сустрэлася з аднакласнікамі, знаёмымі. Зайшла ў сваю колішнюю майстэрню. Кажа, што нічога не змянілася.

Вольга мае жаданне прыехаць у Мінск з выставай. Гатовая, але самой гэта цяжка зладзіць. Ды і яе прац у Беларусі няма — хіба толькі студэнцкія захаваліся ў сяброў. Беларускія музеі пакуль не выказвалі жадання набыць нешта з карцін. Альбо проста не ведаюць пра яе.

**Сяргей Макарэвіч**

# Аўтар мультоў пра Лукашэнку будзе працаваць у Галівудзе

Праграміст з Гродна Алег Мініч мусіў уцякаць з Беларусі, цяпер робіць кар’еру.

Ён ратаваўся ад крымінальнай справы, заведзенай на яго за мульты пра Аляксандра Лукашэнку. Атрымаўшы палітычны прытулак, ён жыў ва Украіне. Цяпер ён атрымаў запрашэнне ад галівудскай студыі ўзяць удзел у стварэнні новага мульціка 3D.

Gemini Rising — першы галівудскі праект, у якім асноўным інструментам для стварэння спецэфектаў будзе Blender. Гэта праграма для «малявання» 3D-анімацыі. Ствараецца навукова-фантастычны фільм пра экіпаж NASA, які выявіў закінуты іншапланетны касмічны карабель, што блукае ў космасе.

Усе гульнявыя сцэны фільма ўжо знятыя, на сайце праекта публікуюцца заданні для vfx-мастакоў («мастакоў па камп’ютарных спецэфектах»). У інтэрнэце быў абвешчаны адкрыты конкурс. Выстаўляліся заданні, і па выніках адбіралася каманда спецыялістаў, якія будуць працаваць над гэтым праектам.

«Мае работы спадабаліся, і мне прапанавалі працу над фільмам. Я буду ствараць спецэфекты. Фільм мае быць скончаны да канца 2011 года», — расказвае Алег Мініч.

Беларусам праграміст з Гродна Алег Мініч вядомы як аўтар «Мультклуба» — мульцікаў з палітычнай сатырай на Лукашэнку і яго ўрад. Журналісты назвалі гэтыя творы флэш-анімацыі «LLL-мультамі». Першыя серыі Віктар намаляваў у адказ на жаданне Лукашэнкі застацца на трэці тэрмін. У іх парадзіраваліся праграмы «Контуры», «Панарама». За гэтыя мульцікі КДБ распачаў супраць Алега крымінальную справу «аб абразе прэзідэнта».

**Сяргей Мікулевіч**



# Патрыярх беларускай філасофіі



У ноч з 5 на 6 чэрвеня памёр Уладзімір Конан.

Навукоўцу было 77 гадоў. Уладзімір Конан нарадзіўся 23 красавіка 1934 года ў вёсцы Вераскава Навагрудскага раёна. Яго сям’я дала беларускай культуры і яшчэ аднаго выдатнага дзеяча. Беларус, які жыве ў Польшчы, паэт і перакладчык Чэслаў Сэнюх — гэта яго стрыечны брат.

Конан скончыў гістфак БДУ. Але вядомасць набыў як філосаф, крытык. Ён стаў доктарам філасофскіх навук па спецыяльнасці «эстэтыка». У 1984-м атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР за ўдзел у напісанні цыкла калектыўных манаграфій па гісторыі філасофскай думкі Беларусі. Найбуйнейшыя яго працы — «Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917—1934 гг.)» (1968), «Ад Рэнесансу да класіцызму» (1978), «Святло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы» (1989), «Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча» (1991).

Развітанне з Уладзімірам Конанам прайшло ў Інстытуце філасофіі НАН. Яго адпелі ў царкве Св. Пятра і Паўла на Нямізе. Спачыў філосаф на Паўночных могілках сталіцы.

**Сяргей Макарэвіч**

**Вобраз ценю**

«[Калі ўспамінаю пра Конана], то чамусьці ў мяне вобраз ценю паўстае. Ён быў настолькі вытанчаны і далікатны, настолькі супадаў са сваім мысленнем, са сваёй працай, што на нейкія зямныя рэчы часу і сілаў у яго ўжо не заставалася».

**Ігар Бабкоў, радыё «Свабода»**

## Пакінуў, што прад’явіць нашчадкам

Я ведаў Уладзіміра Конана з 1969 года, калі працаваў у капыльскай раённай газеце. Тады спаўнялася 70 гадоў Адаму Бабарэку. Я звярнуўся да Уладзіміра Міхайлавіча, каб ён напісаў артыкул. Ён адгукнуўся. І дзякуючы яму адбылося святкаванне юбілею Бабарэкі афіцыйна на ўзроўні райвыканкама.

У 1972 годзе Уладзімір Конан і Энгельс Дарашэвіч выдалі ў серыі «Гісторыя эстэтычнай думкі СССР» беларускі том. А летась выйшаў першы том «Гісторыі эстэтычнай думкі Беларусі» — гэта яго капітальная праца, сума таго, што ён даследаваў. І я чакаю другі том. Для мяне важна, ці паспеў ён падрыхтаваць яго да друку.

...Часта ў нас акадэмікамі і членамі-карэспандэнтамі становяцца людзі, пасля смерці якіх няма чаго прад’явіць нашчадкам. У адрозненне ад Уладзіміра Конана, які не быў ні акадэмікам, ні членам-карэспандэнтам.

**Анатоль Сідарэвіч**

## СПАЧУВАННІ З NN.BY

Ад імя Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва выказваем глыбокае засмучэнне адыходам з зямнога шляху Уладзіміра Конана, волата беларускай навукі, выдатнага філосафа, даследніка Беларусі, нашага блізкага сябра і надзвычай сціплага чалавека. Вечная яму памяць, а сваякам і сябрам шчырае спачуванне.

**Др. Вітаўт Кіпель, др. Янка Запруднік**

Маё спачуванне родным, блізкім і ўвогуле ўсім беларусам. Чалавек сапраўды быў вельмі заслужаны.

**Алесь Пашкевіч, гісторык**

Вечная памяць.

**Зміцер Вішнёў**

Спачуванні. Светлы быў чалавек і спагадны.

**Андрэй Вашкевіч**

Божа, як шкада...

**Ціхан Чарнякевіч**

Царства нябеснае! Пайшоў, як рыцар: цяпер кожны, хто за беларушчыну, можна сказаць, рыцар.

**Said**

# У Паўночнай Асеціі паэта зарэзалі за верш

Дэкан філфака абразіў мусульманіна.

Цела 71-гадовага Шаміля Джыкаева, дэкана факультэта асецінскай філалогіі Паўночна-Асецінскага ўніверсітэта, літаратара і грамадскага дзеяча, было знойдзена 26 мая ў прыгарадзе Уладзікаўказа. У яго было перарэзана горла. Акалічнасці рэзананснай справы высвятляюцца дагэтуль. Падазраваны ў выкананні забойства 34-гадовы Давід Мурашаў быў забіты пры спробе затрымання 31 мая: памяшканне, дзе ён хаваўся, спецназаўцы закідалі гранатамі.

Паводле ўдзельнікаў штурму, перад смерцю Мурашаў выгукнуў, што менавіта ён забіў дэкана — за тое, што той «апаганіў яго веру». Пазней былі затрыманыя меркаваныя хаўруснікі Мурашава. У іх знайшлі самурайскі меч, якім, магчыма, і забілі паэта.

Найбольш верагодным матывам забойства Джыкаева лічыцца рэлігійны. У 2008 г. у часопісе «Мах дуг» («Наша эпоха») быў апублікаваны яго верш «Выпраўляюцца ваўчаняты ў хадж». Верш гэты стаў рэакцыяй паэта на інцыдэнт 6 снежня 2007 г. каля бесланскіх мемарыяльных могілак, дзе пахаваныя ахвяры тэракта. Паводле мясцовай міліцыі, паломнікі з Чачні, якія праязджалі паўз могілкі, спыніліся там, каб справіць патрэбу. За што мясцовыя жыхары закідалі аўтобус з турыстамі камянямі. Чачэнскі бок настойваў, што іх грамадзяне падвергліся нападу ў момант, калі здзяйснялі вечаровы намаз. Верш Джыкаева выклікаў скандал і абурэнне сярод мусульманаў. Аднак афіцыйныя ўлады пасля расследавання не знайшлі рэлігійнага следу.

**Сямён Печанко**

**У Беларусі за верш судзілі**

У 1995 г. паэт Славамір Адамовіч напісаў верш «Забі прэзідэнта». Беларускаму паэту ў параўнанні з асецінскім калегам пашчасціла, бо яго «ўсяго толькі» пасадзілі на 10 месяцаў у следчы ізалятар.

# Новы беларускі святы

— святар, забіты бальшавікамі.

Праваслаўная Царква кананізавала яшчэ аднаго святара-пакутніка, які загінуў ад рук камуністаў. 4 чэрвеня ў царкве Уваскрасення Хрыстова ў Дзісне да ліку святых быў урачыста далучаны айцец Канстанцін Жданаў, закатаваны летам 1919 года.

Літургію і абрад кананізацыі ўзначаліў Мітрапаліт Філарэт. Ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел амаль усе беларускія праваслаўныя епіскапы. Вернікаў, якія прыйшлі на кананізацыю, было столькі, што яны не змясціліся ў царкве.

Канстанцін Жданаў нарадзіўся ў 1875 годзе ў Шаркаўшчыне. У 1900-м стаў праваслаўным святаром.

У 1919 годзе Дзісенскі павет быў ахоплены тэрорам, які разгарнулі бальшавікі. Айца Канстанціна Жданава арыштавалі проста пасля літургіі і даставілі ў Дзісну. Там святара збілі да непрытомнасці і жывога закапалі ў зямлю. Пасля сыходу бальшавікоў вернікі перапахавалі цела айца Канстанціна пад алтаром Свята-Адзігітрыеўскай царквы ў Дзісне. У 2008 годзе парэшткі былі эксгуміраваныя і пасля кананізацыі будуць знаходзіцца ў адмысловай рацы ў Свята-Уваскрасенскай царкве, якую святар будаваў.

**Кастусь Шыталь**



Мітрапаліт Філарэт каля ракі з мошчамі а.Канстанціна Жданава.

## Новая кніга пра вайну з Масковіяй

Па-беларуску выйшла манаграфія польскага гісторыка Конрада Бабятынскага «Ад Смаленска да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.)».

Кніга прысвечаная ваеннаму канфлікту, у выніку якога амаль усю тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага разам з Вільняй занялі войскі цара Аляксея Міхайлавіча. Полымя тае вайны апаліла амаль кожны куток беларускай зямлі.

Шукайце ў кнігарнях і ў незалежных распаўсюднікаў.




Ад Смаленска да Вільні. Вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй (1654—1655 гг.) / Конрад Бабятынскі / Пераклад з польскай. — Вільня: Інстытут беларусістыкі; Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 2011. — 171 с.

# Беларус перамог у польскім спеўным конкурсе X-Factor

X-Factor — гэта праграма тыпу «Алё, мы шукаем таленты».

Генік Лоска ў якасці галоўнага прыза атрымае кантракт на запіс альбома і 35 тыс. даляраў.

Лоску 36 гадоў. Ён нарадзіўся ў Белаазёрску, жыў у Гродне, на пачатку 90-х пераехаў з Гродна ў Варшаву разам са сваім гуртам Seven B. Зарабляў тым, што граў на вуліцах.

Удзел у тэлешоу X Factor на канале TVN стаў для яго зорным. «У ім няма пафасу, уласцівага тым, хто ўдзельнічае ў тэлешоу. Ён проста бярэ гітару і спявае. І гэтая прыродная шчырасць імпануе дзясяткам тысячаў людзей», — кажа музыка Павел Карпеш, лідар праекта «Чырвоным па белым».

**АГ**



# Не стала сямейнага доктара мільёнаў

Вядучая культавай тэлепраграмы «Здароўе» памерла пасля пералому шыйкі сцягна.

«Мільёны людзей у Савецкім Саюзе лічылі Юлію Васільеўну сваім сямейным доктарам. Бялянчыкава праводзіла ў эфіры сапраўдны медыцынскі лікбез: проста і даступна расказвала пра лекі і метады лекавання, тлумачыла складаныя тэрміны. Для нагляднасці прасіла суразмоўцаў маляваць», — адзначаецца ў паведамленні на сайце расійскага Першага канала.

Бялянчыкава доўгі час пакутавала на артрыт. Памерла ж яна неўзабаве пасля таго, як зламала сабе шыйку сцягна. Выходзячы з ванны, паслізнулася і... болей яна не ўставала.

**СГ**

# Паэт беларускі і нямецкі

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.



Кажуць, у сухаземна-горнай краіне Швейцарыі выйшаў твор пад загалоўкам «So, mehr Meer» («Так, болей мора»).

Як бачым, у перакладзе на нашу мову губляецца «цымус» — гульня гукаў.

На гульні гукаў трымаецца і ўвесь верш, з якога швейцарская пісьменніца ўзяла ў якасці загалоўка толькі адзін радок. Верш называецца «Sommer». Вось яго поўны тэкст:

So, mehr Sonne
So, mehr Meer
So, mehr Immer
So, mehr Sehr.

Калі не памыляюся, гэты верш, як і некалькі дзясяткаў іншых, будзе змешчаны ў зборніку «Der Mond denkt, die Sonne sinnt» («Месяц думае, Сонца асэнсоўвае»), які неўзабаве выйдзе ў выдавецтве «Логвінаў». Гэткі нямецкі зборнік будзе ў аўтара ўжо трэці. Раней выйшлі яго кніжкі «Hannoversche Punktierungen» («Гановерскія пункціры») і «Wortdichte», назву якога можна перакласці і як «Словавершы», і як «Словатворы», і нават як «Словапрыдумкі».

Думаецца, новы зборнік з цікавасцю будзе сустрэты тымі, хто чытае па-нямецку, як у Беларусі, так і за межамі нашае краіны. А тым часам у мяне на рабочым стале ляжыць, сказаць бы так, дзесяцікніжжа паэта — дзесяць зборнікаў, пісаных пабеларуску і выдадзеных таксама панам Ігарам Логвінавым.

Адну з гэтых кніжак я рэцэнзаваў на радыё «Свабода», творы з некаторых іншых — ужо даўнавата — у часопісе «Маладосць». Дый як адрэцэнзаваць дзесяць зборнікаў адразу? Тут хутчэй, узяўшы прыклад з Анатоля Івашчанкі ці з Івана Штэйнера, трэба сядаць і пісаць манаграфію. Або дысертацыю, як гэта робяць іншыя даследчыкі. Адны пішуць пра слова ў творах паэта, іншыя пра гукапіс... І мне аднойчы давялося паспачуваць: бедны паэце, твае творы разбіраюць на цытаты, лексемы і фанемы, а хутка разбяруць і на марфемы. І што застанецца ад твораў, ад паэзіі?

Вось і мне аднойчы хацелася напісаць пра эсхаталогію паэта. І на сустрэчы ў клубе грэка-каталіцкай інтэлігенцыі я цытаваў твор «Лясная дарога», у якім апошнія радкі гучаць гэтак:

Зыбаецца воз па пяску, ляскоча воз па карэнні,
Хведарка Барадаты махае лейцамі і паганяе каня...
Цесна пасеўшы, усім хаўрусам едзем па даўняй
лясной — па людской!.. — дарозе, едзем
на страшны суд.

Прачытаў я гэты твор, а малады бацюшка, айцец Андрэй Буйніч, і кажа мне: дык жа на гэтую тэму маецца магістарская дысертацыя, я вам яе дашлю па электроннай пошце. І праўда, маецца дысертацыя, і абараніў яе ў Люблінскім каталіцкім універсітэце таксама малады святар — айцец Андрэй Сідаровіч.

Але вось чаго не ведаюць ні Анатоль Івашчанка, Іван Штэйнер, ні а. Андрэй Сідаровіч — гэта таго, як паэт выпрабоўваў на мне квантэмы. Выпрабаванне адбылося ў тым самым годзе, калі квантэмы ўпершыню з'явіліся на старонках «Маладосці». З вуліцы Харужай, дзе жыў тады паэт, мы пайшлі прымаць сонечныя ванны (а папросту кажучы — загараць) на блізкае Камсамольскае возера. І там паэта выдаў:

надзея навырост
парожні поўдзень
распроставецца
жоўты
дзьмухавец

Я, натуральна, кінуўся лічыць радкі і склады: ці не танка гэта? А раз не танка, дык што гэта такое, як яго назваць? І паэта ўразіў мяне тэрмінам з фізікі — квантэма. Твор запомніўся. Асабліва словамі «распроставецца жоўты дзьмухавец», бо непадалёк ад нас хлопец мілаваўся з дзеўчынай, і ў яго, пэўна, нештачка распрасталася. А калі без хуліганства, дык з таго дня запомнілася яшчэ адна квантэма:

я адымаецца,
шчыльнеюць рыштаванні
чысты час

І калі праз нейкі час Іван Пташнікаў, разгарнуўшы перада мною ў лімаўскай бібліятэцы часопіс «Маладосць», спытаўся: «Як вам?», я ўразіў пісьменніка адказам:

— А, квантэмы!.. Ды я іх ужо даўнавата чытаў.

З'яўленне квантэмаў супала з тым перыядам у жыцці паэта, калі ягоныя кучары пачалі выпадаць і калі ён узяў ды пастрыгся пад нуль. І тут ягоны калега ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» Генадзь Шупенька адразу ж прыдумаў творцу новага жанру мянушку — Квантамас.

Ну вось, занесла мяне. Плынь свядомасці, няйначай. Згадкі пра здарэнні і прыгоды пакіньма на потым, лепш адзначма, што паэт прыдумаў яшчэ версэты, пункціры, вершаказы, зномы ды злёсы, і вернемся да яго дзесяцікніжжа.

Рыхтуючы дзесяцікніжжа, якое выйшла цягам 2005–2011 гг., паэт згрупаваў свае творы па жанрах. І гэтак з'явіліся: «Кніга ўзнаўленняў», у якой новаю паэтычнаю моваю пераказаны творы старабеларускіх аўтараў ад святога Кірылы Тураўскага да Льва Сапегі; кніга версэтаў «Лясная дарога»; кніга паэмаў «Каб мелі шчасце ўваскрасаць і лётаць»; кніга пункціраў «Дождж: возера ў акупунктуры»; кніга вершасказаў «Пчала пачала паломнічаць» і кніга зномаў «Сума немагчымасцяў». Гэтыя зборнікі выйшлі серыйна, бо на іх вокладках маецца «фірмовы» знак — ужо знакамітыя яйкаквадраты, якія паэт прыдумаў разам з мастаком Віктарам Маркаўцом.

Тут не магу ўстрымацца, каб зноў не кінуцца ва ўспаміны. Калі выйшла кніга паэмаў, я звярнуў увагу, што ў ёй няма «Паэмы выслоўяў». Гэты твор паэт чытаў мне ў двары магазіна «Мэбля» на Валгаградскай вуліцы ў чаканні, калі будзе пагружаная шафа, якую трэба было завезці ў кватэру на вуліцы Харужай. На той час (брэжнеўшчына) паэму, бадай, нельга было апублікаваць. І не толькі таму, што ў ёй быў «хуліганскі» рэфрэн — цытата з Уладзіміра Маякоўскага: «Марыя дай!» Я спытаў у паэта: дзе паэма? Ён доўга перабіраў свае паперы, але твор не знайшоў. Вось і гэтак бывае.

Або і такое трэба напісаць: паэт быў і ёсць вельмі зацікаўлены творчасцю Велiміра Хлебнікава. Помніцца, што ў 1970-я ён быў у ліку арганізатараў вечарыны, прысвечанай гэтаму арыгінальнаму творцу. І зараз помніцца, што вершы Хлебнікава добра чыталі Мікалай Кірычэнка з купалаўскага тэатра і Валерый Шушкевіч — з рускага.

Пішу гэта таму, што сярод чатырох несерыйных кніжак (аформленых, што праўда, таксама з Віктарам Маркаўцом) маецца томік «З Вяліміра Хлебнікава». Як у «Кнізе ўзнаўленняў», так і ў гэтым зборніку не трэба шукаць перакладаў. Гэта хутчэй творы па зададзеную тэму. Таму паралельна з беларускім тэкстам друкуецца расійскі арыгінал.

Зборнік «З Вяліміра Хлебнікава» стаў передапошнім, дзявятым у дзесяцікніжжы. Яму ж папярэднічаюць яшчэ адна кніжка пункціраў — «Воплескі даланёю адною» — і зборнік «З апокрыфа ў канон: Гутаркі, выступленні, нататкі», бо вядома, што паэт не толькі творыць, але і асэнсоўвае творчасць — сваю і «чужую». Квантэмы, пра якія я тутака пісаў, а таксама злёсы змешчаныя ў апошнім, дзясятым зборніку дзесяцікніжжа «І потым нанава пачаць».

Тут жа — гэта трохі парадокс — надрукаваныя і вершы з ягонае самае першае кніжкі. Пішу «трохі парадокс», бо вядома, што ўсё наступнае мае пачатак і зводзіцца да яго.

І ўсё ж, як выяўляецца, творчы даробак паэта не абмяжоўваецца дзесяццю беларускімі кніжкамі. Чакаем ягоны адзінаццаты зборнік — на нямецкай.

Я наўмысна ані разу не назваў імя паэта. Дасведчаны чытач з першых радкоў здагадаўся, пры чые творы і творчасць вяду я гаворку. Недасведчанаму чытачу паведамляю: пра творы, творчасць і кніжкі Алеся Разанава, паэта беларускага і нямецкага. Былі ж у нас паэты беларускапольскія, беларуска-расійскія. Чаму ж не быць беларуска-нямецкаму? Але пры ўсім пры тым Алесь Разанаў, як і ягоныя выдатныя папярэднікі, застаецца найперш беларускім паэтам. Але пра тое — у чым беларускасць гэтае знакавае асобы — трэба пісаць асобны твор. Ці дысертацыю. Пра тое — упэўнены — абавязкова будзе напісана.

# «Толькі праз пяцьдзясят гадоў я паразмаўляла з роднымі мамы-беларускі»

**Ірына Маякавене нарадзілася ў Казахстане, вырасла ў Літве, цяпер жыве ў Англіі. Пра свае карані даведалася дзякуючы інтэрнэту.**

Бацькі Ірыны літовец Юстынас Дзішкас і беларуска Ніна Хмель пазнаёміліся ў пачатку 1960-х у цягніку па дарозе ў Казахстан. Абое ехалі на працу ў Каражал, тады яшчэ пасёлак. Ажаніліся, а неўзабаве нарадзілася Ірына. Праз шэсць месяцаў, у лютым 1962 года, Ніна Дзішкене памерла. Пасля пахавання бабуля-літоўка забрала ўнучку да сябе ў Каўнас. Бацька вярнуўся з вахты праз год. Неўзабаве ён ажаніўся другі раз. Ірына кажа, што ёй пашчасціла: другую жонку свайго бацькі яна дагэтуль называе мамай. А вось з бацькам далёка не ўсё было так бясхмарна. Ён любіў зазірнуць у чарку, часцей бавіў час з сябрамі, чым з сям'ёй. Калі Ірыне споўнілася шаснаццаць, бацька сышоў да іншай жанчыны. «Ён часта абяцаў адвезці мяне ў Каражал на маміну магілу, але так і не зрабіў гэтага». Пра тое, адкуль паходзіць яе мама, пра сваіх сваякоў-беларусаў, Ірына даведалася толькі сёлета. І дапамаглі ёй у гэтым незнаёмыя людзі.

### «Незнаёмцы з усяго свету дапамагалі мне»

Ірына ўсё жыццё марыла даведацца пра сваё паходжанне, але на актыўныя пошукі наважылася толькі два гады таму. Падала заяўку на перадачу «Чакай мяне», а таксама на спецыялізаваныя сайты, якія займаюцца пошукам сваякоў. На адным з іх сваю дапамогу ёй прапанаваў Васіль Раманюк са Жлобіна. Ён параіў жанчыне падаць запыт у ЗАГС Каражала. У Ірыны засталіся дакументы — пасведчанне аб шлюбе бацькоў і пасведчанне аб смерці мамы. Праз інтэрнэт жанчына пазнаёмілася з жыхарамі і ўраджэнцамі Каражала, папрасіла дапамагчы. Некалькі чалавек пагадзіліся. Сярод іх былі і тыя, што ўжо даўно не жывуць у Казахстане — хто грамадзянін Германіі, хто — Расіі. Ірына з удзячнасцю называе дзясяткі прозвішчаў неабыякавых незнаёмцаў. Урэшце яна даведалася месца нараджэння мамы і даслала звесткі Васілю ў Жлобін. Праз тыдзень яна ўжо ведала падрабязнасці.

Мама Ірыны нарадзілася ў вёсцы Лазавікі (цяпер Астроўшчына), што на Полаччыне, у сям'і Аляксандра і Зінаіды Хмель. Яна была малодшай з 14 дзяцей (выжыла 7).

У студзені 1938 года дзеда Ірыны Аляксандра арыштавалі. 26 лютага таго ж года камісія НКВД вынесла прысуд — вінаваты паводле арт. 68, 71 КК БССР. Непісьменнага селяніна абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Польшчы і праз месяц расстралялі. Аляксандр Сямёнавіч Хмель быў рэабілітаваны праз паўстагоддзя.

### «Цяпер я ведаю, хто я, адкуль мае карані»

Апошнія тры гады Ірына Маякавене жыве ў Англіі, працуе нянькай. Зёй на Туманны Альбіён перабраліся дзве дачкі 16 і 20 гадоў. У Беларусі ў Ірыны жыве тузін стрыечных братоў і сясцёр, а таксама пляменнікі. З імі яна паразмаўляла ізноў жа дзякуючы Васілю Раманюку, які арганізаваў дзеля гэтага імправізаваны інтэрнэт-мост. «Такой вясны, як гэта, у мяне яшчэ не было», — дзеліцца ўражаннямі Ірына. Цяпер яна ведае, што адчуваюць героі перадач кшталту «Чакай мяне». «Нарэшце я ведаю, хто я, адкуль мае карані».

Яна просіць праз газету падзякаваць свайму дабрадзею. «Васіль Мікалаевіч — проста цуд, а не чалавек!»

Васіль Раманюк кажа, што не вядзе падлік знойдзеных з яго дапамогай людзей. «Пачалося з таго, што ў 2006-м мне самому дапамаглі адшукаць стрыечных братоў, якіх я не бачыў больш за 30 гадоў. А потым я ў знак удзячнасці пачаў дапамагаць іншым». Ён спецыялізуецца на пошуку загінуўшых, але не адмаўляе, калі просяць аднавіць радавод.

На форуме сайта «Дарогамі Беларусі» (dorogiby.info) ёсць раздзел, прысвечаны пошуку родных і сяброў. У ім Васіль Мікалаевіч пад псеўданімам РВН пакінуў больш за 2000 допісаў. Гэта інфармацыя пра месцазнаходжанне пахаванняў, звесткі з архіваў і ЗАГСаў, розныя падказкі і тлумачэнні, дзе і як шукаць сваіх блізкіх. Захапіўшыся пошукам чужых людзей, Васіль Раманюк аднавіў і ўласны радавод да пятага калена. «Гэта цяжкая праца, але і ўдзячная», — кажа ён.



Ніна Хмель, маці Ірыны.



Ірына Маякавеня знайшла сваякоў праз інтэрнэт.

**Сямён Печанко**

## Джып пераехаў дзяўчыну, што загарала ў траве

**Аварыя адбылася ў мінскім Сухараве,**

удалечыні ад праезнай часткі, у траве метровай вышыні. 23-гадовая дзяўчына прыехала ў Мінск на сесію з Барысава, пасялілася ў сястры і ўвечары выйшла пазагараць. Як ля яе апынуўся чырвоны «Міцубісі», Марыя не памятае — мабыць, задрамала. «Калі джып праехаў па мне, я адразу не зразумела, што здарылася. Я цудам засталася жывая, добра, што на галаве толькі драпіна», — расказала яна для kp.by.

Дзяўчыну адразу ж адвезлі ў бальніцу, у яе разрыў полавых органаў, зламаная рука і ўдар усяго цела. Пасля першай дапамогі яе адвезлі ў Барысаў. Цяпер дзяўчына на бальнічным, з ложка не ўстае.

ДАІ адшукала кіроўцу «Міцубісі» ў той самы дзень. Мужчына толькі вярнуўся з рыбалкі дамоў. Нумар барвовага «Міцубісі» запомніў школьнік, які гуляў непадалёк, а марку аўто — малады чалавек, які выклікаў «хуткую».

50-гадовы кіроўца джыпа ў той дзень з жонкай ехаў на рыбалку. Як апынуўся ў полі? Аб'язджаў затор. «Адным колам я ехаў па сцежцы, а другім па траве. Трава была высокая, — тлумачыць ён. — Падчас руху якіх-небудзь гукаў або крыкаў, характэрных для наезду на пешахода, я не чуў, таму не спыніўся». Мужчына цалкам прызнаў сваю віну.

**СМ**

## Тры гадзіны плаваў, уцякаючы ад ДАІ

Кур'ёзны выпадак адбыўся 2 чэрвеня ў вёсцы Галошава Талачынскага раёна. Кіроўца МТЗ-82 на скрыжаванні не справіўся з кіраваннем, трактар перавярнуўся, а сам віноўнік аварыі ... кінуўся ў возера, уцякаючы ад супрацоўнікаў ДАІ і раз'юшаных прадстаўнікоў СВК, у якім працуе.

Адразу ўзнікла падазрэнне, што кіроўца «пад мухай». Але даставіць яго на медэкспертызу не ўдалося. Мужчына кінуўся ў возера Глыбокае і тры гадзіны плаваў ад берага да берага.

— Ён крычаў, маўляў, ні за што не здамся, — распавялі ў ДАІ. — У выніку было прынята рашэнне звярнуцца па дапамогу да ратавальнікаў. Яны падплылі да яго на гумовай лодцы, ўгаворвалі. Ён нават стаў пагражаць: калі аддасце даішнікам, то каго-небудзь сапраўды ўтаплю. Калі яго даставілі на процілеглы бераг, ён уцёк. Цяпер яго шукаюць. Па факце аварыі вядзецца разбор.

**СП, паводле auto.onliner.by**

## Сцісла

• **Мінчук падазраецца ў згвалтаванні кватаранткі.** Следчым аддзелам пракуратуры Мінска ўзбуджаная крымінальная справа за згвалтаванне (ч. 1 арт. 166 КК) у дачыненні да 46-гадовага раней неаднаразова судзімага мінчука. Ён падазраецца ў згвалтаванні 20-гадовай жыхаркі сталіцы. Дзяўчына знайшла па аб'яве ў інтэрнэце пакой, дамовілася аб аплаце і пачала засяляцца. Увечары гаспадар стаў настойліва прапаноўваць выпіць з ім, але дзяўчына адмовілася. Тады мужчына прымусіў яе спажыць алкаголь пад пагрозай нажа, пасля чаго збіў і згвалтаваў, забраў грошы і сышоў, замкнуўшы яе ў кватэры. Калі ён вярнуўся, яго ўжо чакалі супрацоўнікі міліцыі.

• **Жыхар Іванаўскага раёна адбіў напад рабаўнікоў.** Выпадак здарыўся ў вёсцы Моладава. У дом 60-гадовага мужчыны ноччу праз акно ўварваліся двое ў масках. Яны пагражалі нажом ды патрабавалі грошай. Гаспадар аказаў ім супраціў. У выніку адзін з нападнікаў (раней неаднаразова судзімы за крадзеж, рабаванне і г.д.) 1985 года нараджэння сканаў. Іншы 20-гадовы налётчык (таксама судзімы) паранены. У дачыненні да яго міліцыя завяла крымінальную справу па ч.2 арт.207 «Рабунак».

• **Вінаваты ў ДТЗ назваўся Ісусам Хрыстом.** На аўтадарозе Мінск—Магілёў у пасёлку Бялынічы 31-гадовы магілёвец, кіроўца «Таёты», выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з ГАЗ-53. Кіроўца «Таёты» з параненым тварам трапіў у бальніцу. Інспектараў ДПС, якія прыбылі на месца здарэння, кіроўца здзівіў, калі прадставіўся. «Я — Ісус Хрыстос», — сказаў ён і дадаў, што спусціўся на зямлю, каб дапамагчы людзям. У пратаколе, дзе патрабуецца подпіс, кіроўца паставіў «І.Х.». Пасля здарэння кіроўца быў дастаўлены для абследавання ў псіхбальніцу.

• **Трэцякласнік выпадкова зарэзаў аднавяскоўца.** У Нараўлянскім раёне загінуў хлопчык 2002 года нараджэння, вучань 4-га класа, жыхар вёскі Грушаўка. Труп дзіцяці з нажавым раненнем шыі быў знойдзены на пустцы каля дома бацькоў. Устаноўлена, што яго падчас гульні параніў аднавясковец, вучань 3-га класа, 2003 года нараджэння.

• **Міліцыя спыніла школьніка толькі з дапамогай зброі.** Гарадзенская міліцыя спыніла 15-гадовага, які сеў за руль бацькоўскай машыны, з дапамогай зброі. Падлетак на «Фордзе» ігнараваў патрабаванні ДАІ спыніцца, а пры спробе затрымання спрабаваў наехаць на інспектара. Калі пагоня перамясцілася ў двары, капітан міліцыі быў вымушаны выкарыстаць табельны пісталет. Юны зламыснік кінуў аўто з прастрэленым колам і хацеў уцячы, але быў затрыманы. Падлетка перадалі бацькам, будзе разгляд у камісіі па справах непаўналетніх.

• **Ласі атакуюць.** За мінулы месяц пад Баранавічамі адбылося пяць аварый, прычынай якіх стала раптоўнае з'яўленне на дарозе лася. Усе сутыкненні былі зафіксаваныя на трасе Брэст—Мінск—мяжа РФ.

**СМ**

# Фестывалі гэтага лета

Куды з'ездзіць беларускаму меламану?




## 22—24 ліпеня: «Басовішча»

Тлумачыць, што такое «Басовішча», няма патрэбы — для беларусаў гэты фэст ператварыўся ў лакальны аналаг легендарнага Вудстока. З той розніцай, што Вудсток адбыўся адзін раз, і з тых часоў яго імкнуцца аднавіць, а на «Басовішча» можна ездзіць штогод. Хэдлайнеры гэтага года — «Нейра Дзюбель», IQ 48 і польскі гурт R.U.T.A. Чаго чакаць ад фестывалю сёлета — таксама не пытанне. Той, хто трапляў туды хоць раз, ведае: калі і ёсць у Беларусі нешта стабільнае, дык гэта «Басовішча». Адбудзецца яно, як заўжды, на Беласточчыне, ва ўрочышчы Барок пад Гарадком. Польскі бок сёлета абяцаў усім слухачам бясплатныя візы.

## 17—19 чэрвеня: Ob-La-Ki Ob-La-Ka

Віцебск працягвае традыцыю фестываляў, прысвечаных творчасці The Beatles. 17—19 чэрвеня горад Шагала пераўтворыцца ў аналаг Ліверпуля — у клубах, Летнім амфітэатры ды і ўвогуле не вуліцах будзе гучаць музыка «бітлоў». Як паказаў ранейшы «Бітлз»-фестываль у Лагойску, паслухаць музыку ліверпульскай чацвёркі збіраецца многа людзей. Адзіны мінус — на кожны канцэрт трэба асобны квіток. Спецыяльны госць фестывалю — расійскі «Акварыум». Сярод іншых выступоўцаў — найлепшыя выканаўцы «Бітлз» у Беларусі — гурт The Apples, а таксама алдовы гурт FLAT, блюзмэн Аляксандр Цыганок.

## 9—13 чэрвеня: «Пустыя Пагоркі»

«Пустыя Пагоркі» — бадай, самы альтэрнатыўны фестываль з тых, што праходзяць у нашых усходніх суседзяў. Сёлета ён адбудзецца 9—13 чэрвеня у Калужскай вобласці. Як заўжды, фестываль, — бясплатны. Аднак знайсці, дзе менавіта ён будзе адбывацца — задача для слухача. Такім чынам арганізатары ладзяць своеасаблівы фэйс-кантроль — каб не было лішніх людзей. Чаму варта ехаць: выступаюць тыя, каго нельга абазваць крыўдным словам «парт-рок», музыкі, не пры(ў)лашчаныя ўладай. Пералічваць, хто будзе — бессэнсоўна, бо прыедзе музыкантаў усё адно ў два разы больш, чым заяўлена: ад Беларусі будуць Gurzuf і «Атмараві». Хэдлайнераў традыцыйна не вылучаюць, слухачы самі высвятляюць для сябе, хто галоўны. Але магчымасць паслухаць адначасова і рок, і джаз, і блюз, і фольк трапляецца не штодня.

## «Дзіракол»

Гэты ўкраінскі, запарожскі фэст нечакана для ўсіх стартаваў у 2010 годзе. Фестываль незалежнай музыкі летась прайшоў двойчы пры невялікай колькасці гледачоў і сабраў вельмі цікавых і розных выканаўцаў — ад блюзавага віртуоза Макса Таўрычнага з Кіева да авангардыстаў і легендарнага днепрапятроўскага блюзмэна Саныча Волгіна. Сярод гасцей фэсту — культавыя «Умка і Бро». Дата фестывалю сёлета пакуль невядомая, але што ён будзе — сумневаў ніякіх, трэба проста сачыць за рэкламай. І калі вы раптоўна апынецеся ў Запарожжы ці на крымскім узбярэжжы, з'ездзіць на фестываль варта — па ўзроўню незвычайнасці і незалежнасці з «Дзіраколам» не параўнаюцца нават «Пустыя Пагоркі».

## 11—13 жніўня: Sziget

Знакаміты еўрапейскі фестываль сёлета прапануе шчаслівым уладальнікам шэнгенскіх візаў настолькі шырокую праграму, што ўзнікае пытанне, ці варта ехаць куды-небудзь яшчэ. Здаецца, усе: ад Эмі Уайнаўз да Pulp, ад Judas Priest да Cowboy Junkies сыграюць у Будапешце 11—13 жніўня. Праўда, кошт квітка «кусаецца» — ад 45 да 200 еўра, але мерапрыемства таго вартае: цікавейшага музычнага кактэйлю ў Еўропе гэтым летам не будзе.

**Юрась Ускоў**



## КАНЦЭРТЫ

### Канцэрт на траве

**11 чэрвеня ў 16.30 на хутары Шаблі** (Валожынскі раён, Малое Запруддзе) — канцэрт на траве. Бяруць удзел: Лявон Вольскі, «Крамбамбуля», «J:морс», Аляксандр Памідораў, «Бостанскае чаяванне», Dali.

### Мобі

**12 чэрвеня на «Мінск—Арэне»** выступіць Мобі. У прэсе яго часта называюць чалавек-аркестр. Ягоная творчасць не ўкладваецца ў пэўныя рамкі. Мобі так «апранае» любую мелодыю рознымі гукамі, што аднесці яго творчасць да нейкага вызначанага кірунку немагчыма. Гэты чалавек стварыў абсалютна новы стыль.

Даведкі пра канцэрт па т.: (029) 609-77-47, (029) 751-11-75.

### Ганна Хітрык і S°unduk

**10 чэрвеня ў ДК імя Шарко ГА БелТГ (вул.Уральская, 3)** — новы гурт Ганны Хітрык S°unduk прэзентуе свой першы альбом. **Пачатак а 19-й.**

### RockerJoker

**19 чэрвеня ў «Графіці»** зайграе RockerJoker. Гэты дуэт стаў папулярным незадоўга перад выбарамі 19 снежня 2010 года. Тады шырока разышлася іх іранічная песня «Саня останется с нами». Афіцыёз зразумеў яе літаральна і выкарыстоўваў у агітацыі. Пасля выбараў музыкі заявілі, што праект разыходзіцца. Аднак, як бачым, RockerJoker жывы. **Пачатак канцэрта а 18-й.**

### «Тройца» ў «Графіці»

**9 чэрвеня ў «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — этна-трыа «Тройца» пад кіраўніцтвам Івана Кірчука. **Пачатак а 19-й.**

### «Гаротніца»

**17 чэрвеня ў «Графіці»** — «Гаротніца». **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Опера ў Строчыцах

**10 чэрвеня ў Музеі народнай архітэктуры** ў Строчыцах пройдзе канцэртная праграма «Чароўная ноч класікі ў музеі пад адкрытым небам» **(пачатак а 22-й)**. У начным канцэрце возьмуць удзел салісты Музычнага тэатра, Оперы, Вялікага тэатра Расіі (Масква), Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург). Прагучаць творы Бізэ, Вердзі, Моцарта, Пучыні, Рахманінава, Штрауса.

### Фестываль шведскага кіно

**Да 10 чэрвеня ў кінатэатры «Цэнтральны»** — фестываль шведскага кіно. **Пачатак а 19-й.**

8 чэрвеня — «Падпарадкаванне».

9 чэрвеня — «Добраахвотна-прымусова».

10 чэрвеня — «Сумнеўна».

## ВЫСТАВЫ

### Фестываль культуры і мастацтваў Ірана

**Да 16 чэрвеня ў Палацы мастацтва** — фестываль культуры і мастацтваў Ірана. У фестывалі бяруць удзел звыш 70 майстроў розных напрамкаў мастацтва Ірана. Можна будзе ўбачыць творы жывапісу, мініяцюры, фатаграфіі, мастацтва каліграфіі, дываны…

### Viatoris глядзіць на зоркі

**Выставы жывапісу Пятра Яргуша** (Кракаў) «Viatoris глядзіць на зоркі» працуюць у галерэі TUT.BY (В.Харужай 1а, 6 паверх) і ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Заслаўе» (г.Заслаўе, вул. Рынычная, 4). Viatoris у перакладзе з лацінскай мовы азначае «падарожнік».

### Выстава не дзіцячага малюнка

**У галерэі сучаснага мастацтва «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** да 19 чэрвеня працуе выстава твораў Міхаіла Гуліна «Выстава не дзіцячага малюнка». Мастак звяртаецца да тэмы мас-медыя і аналізуе механізмы, законы і рытуалы, якія вызначаюць сёння дыстрыб'юцыю і рэцэпцыю візуальнай інфармацыі. На выставе прадстаўлены дзве групы твораў, якія экспануюцца ў дзвюх прасторавых зонах: Minimal Sexual і «Дзіцячая дэманалогія».

### Арт-лінія

**Да 17 ліпеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе выстава графічных работ студэнтаў Акадэміі мастацтваў у рамках IV Мінскай міжнароднай выстаўкі графікі «Арт-лінія». У экспазіцыі прадстаўлена больш за 40 дыпломных і курсавых работ студэнтаў і выпускнікоў кафедры графікі за апошнія 10 гадоў.

### Кранальная выстава

**У Мастацкім музеі (вул.Леніна, 20) да 18 чэрвеня** працуе выстава скульптуры — «Кранальная выстава». На выставе можна ўбачыць творы Алега Варвашэні, Андрэя Вараб'ёва, Аляксандра Мінькова, Дзмітрыя Аганава, Сяргея Аганава, Андрэя Асташова. Назву выставы трэба разумець літаральна — экспазіцыя павінна пашырыць межы ўяўленняў аб класічным музеі, дзе зазвычай забаронена датыкацца да экспанатаў.

### І пекнаты тваёй сакрэт нібы ўсяго жыцця разгадка

**Да 18 чэрвеня ў мастацкім музеі** працуе выстава «І пекнаты тваёй сакрэт нібы ўсяго жыцця разгадка…», прысвечаная жанчыне. Экспазіцыю складаюць творы графікі сучасных беларускіх мастакоў Сяргея Цімохава, Аляксандра Шапы, Андрэя Асташова і іншых.

### Копія ўяўнай рэальнасці

**У Мастацкім музеі да 13 чэрвеня** працуе фотавыстава твораў Андрэя Шчукіна і Дзяніса Нядзельскага «Копія ўяўнай рэальнасці».

### Стыхіі

**Да 26 чэрвеня ў галерэі «Вільнюс» (вул.Каліноўскага, 55)** працуе выстава Сяргея Пыжыкава «Стыхіі». На выставе прадстаўленыя жывапісныя працы, акварэлі. Нябесныя краявіды творцы адлюстроўваюць шырокі спектр настрояў — як прыродных, так і ўнутраных: ад бязвоблачнага спакою да пераднавальнічнага стану і разгулу стыхіі…

### Абсалютная вільготнасць

**Да 15 чэрвеня ў кінатэатры «Цэнтральны»** працуе фотавыстава «Абсалютная вільготнасць». Жывое чалавечае цела мае ад 55 да 78% вады. Страта чалавекам больш 10% вады можа выклікаць смерць. Страта арганізмам прыбалтыйскага чалавека больш 1 % вады можа прывесці да смерці. Прыбалтыйскі фатограф — жывы таму доказ.

## ТЭАТРЫ

**9 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

**10 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Оперы і балета** — «Стварэнне свету»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

**11 чэрвеня**

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

**12 чэрвеня**

**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

**13 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Інфляцыя пачуццяў»
**Оперы і балета** — «Аіда»
**Купалаўскі** — «Translations»

**14 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне (Лета)»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»

**15 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Оперы і балета** — «Снягурка»

**16 чэрвеня**

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Купалаўскі** — «Тэатр Уршулі Радзівіл»

**17 чэрвеня**

**Беларускай драматургіі** — «Раман + Юлія»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

**18 чэрвеня**

**Лялек** — «Марозка»

**19 чэрвеня**

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

## КІНО

### Прыгоды вольных папугаяў

**Rio**

ЗША, 2011, каляровы, 96 хв.

**Рэжысёр:** Карлас Салдана

**Жанр**: Музычны камедыйны мультфільм для ўсёй сям'і

**Адзнака:** 7 (з 10)

Рарытэтнага віду бразільскі папугай едзе са сваёй гаспадыняю ў Рыа, каб сустрэцца з апошняй у свеце блакітнай папугаіхай. Але парачку крылатых герояў выкрадаюць злачынцы. Толькі нягоднікі недаацанілі сваіх папугаістых вязняў.

Карціна Карласа Салданы — радасная і светлая, як бразільскі карнавал з птушкамі, малпамі, гаваркімі бульдогамі і закаханымі папугаямі. Рэжысёр, які пацяшаў нас «Ледавіковым перыядам», дорыць гледачам паўтары гадзіны летняга шчасця.

У гэтым шчасці — кемлівасць ціхоні, які вучыцца лётаць, забаўныя малпачкі-клептаманкі і сольныя канцэрты бандыцкага какаду. Кантрасныя характары герояў, трапныя жарты, якія гучаць паміж яскравымі нумарамі, галаваломныя анімацыйныя ўцёкі — годныя прыёмы галівудскае фабрыкі.

Але пачуццё палёту, фарбы жыцця, даступныя толькі дзяцінству, і завадны спеўны настрой — у анімацыйным «Рыа» з нябёснымі папугаямі.

**Андрэй Расінскі**



# На колькі падаражэла мабільная сувязь

**«НН» параўнала, як узнялі тарыфы сотавыя аператары.**

Пасля 20-працэнтнага абвалу рубля ў студзені 2009 года мабільныя аператары адгукнуліся эквівалентным ростам тарыфаў. Тады, пасля настойлівай рэкамендацыі ўрада, некаторыя цэны былі часова вернутыя на ранейшы ўзровень. Якая рэакцыя аператараў была гэтым разам?

### Life:)

Турэцкі аператар life:) вырашыў уніфікаваць кошт міжсеткавых званкоў на ўсіх




PHOTO.BYMEDIA.NET

Вернемся ў таксафоны?

тарыфных планах. Цяпер пазваніць абанентам МТС ці «Вэлком» будзе каштаваць мінімум 149 рублёў за хвіліну. Раней на большасці тарыфных планаў хвіліна каштавала 99 рублёў. Змены ўвойдуць у сілу 15 чэрвеня.

Паднялася і цана роўмінгу. Ільготная сувязь з дзевяццю краінамі (у іх ліку ўсе суседкі Беларусі) будзе каштаваць 1499 рублёў за хвіліну замест 999 рублёў.

На 15% таксама павялічыўся кошт смс-паведамленняў. Раней яны каштавалі 129 рублёў, цяпер — 149 рублёў.

### Velcom

Гэты аператар не стаў мудрыць з новымі тарыфамі. Запомніць проста — ад 24 чэрвеня амаль усе паслугі даражэюць на 10%. Застаецца бязьзменнай абаненцкая плата за інтэрнэт-пакеты ды не змяняецца абаненцкая плата на элітным тарыфным плане «Бізнэс.Про.Плацінавы». Кошт смс-паведамлення складзе 150 рублёў.

### МТС

Што да росту тарыфаў на сувязь, дык расійскі аператар пакуль што адмоўчваецца, чакаючы стабільнасці на валютным рынку. А вось цэны на тэлефоны спраўна растуць — ужо другі раз за месяц. Напрыклад, папулярная мадэль тэлефона Nokia 5230 да крызісу каштавала 780 тысяч рублёў, цяпер — 1,7 мільёна. Рост цаны склаў 118%. Звыштанны Samsung E1081T падаражэў яшчэ мацней — у тры з паловай разы! Замест 109 тысяч рублёў цяпер за яго трэба аддаць 349 тысяч.

**Яўген Васількоў**

ШКОЛА ВЫЖЫВАННЯ

# Як сябе паводзіць у часе навальніцы

**Прыйшла пара навальніцаў. Самы час прыгадаць элементарныя правілы бяспекі.**

Калі навальніца заспела вас на адкрытай прасторы...

Неабходна спыніць рух і пашукаць сховішча. Але пры гэтым трэба пазбягаць вялікіх дрэваў, асабліва, калі яны стаяць на адкрытай мясцовасці, слупоў, апораў ЛЭП і асобных збудаванняў. Аптымальныя схованкі — ямы, лагчыны. Калі не ўдасца знайсці такое месца, трэба прысесці, каб быць ніжэй за бліжэйшыя аб'екты ландшафту. У часе навальніцы варта зняць з сябе металічныя прадметы, адключыць мабільнік.

### На вуліцы...

Хавайцеся ў жылых дамах, установах, крамах. Пазбягайце прыпынкаў грамадскага транспарту, металічных канструкцый. Не карыстайцеся парасонам. У астатнім тут дзейнічаюць тыя самыя правілы: зняць металічныя рэчы, выключыць тэлефон, стаць ніжэй.

### На вадаёме...

Калі навальніца заспела вас у часе купання ці катання на лодцы або катамаране, неадкладна выйдзіце з вады. Гэта не самы лепшы час і для рыбалкі. Вуду трэба пакласці на зямлю.

### У доме...

Пры набліжэнні навальніцы зачыніце вокны і форткі, вентыляцыю, засланкі ў печы. Распальваць печ у такі час небяспечна, бо дым валодае высокай электраправоднасцю. Выключыце электрапрыборы і не падыходзьце да вокнаў.

### У аўто...

Грамадскі і персанальны транспарт — досыць бяспечнае месца падчас навальніцы. Загадзя трэба зачыніць вокны і апусціць антэну.

### Як ратаваць чалавека, у якога трапіла маланка

Выклікаць «хуткую». Да прыезду медыкаў трэба дзейнічаць па сітуацыі. Часта ў такіх выпадках пацярпелыя губляюць прытомнасць. Ім трэба рабіць штучнае дыханне і масаж сэрца да поўнага аднаўлення дыхання і сэрцабіцця. Калі паранены знаходзіцца ў прытомнасці і дыхае сам, не варта яго чапаць да прыезду «хуткай». Пацярпелага трэба пакласці на бок.

**Падрыхтаваў СП**

# Каб спёка была ў радасць



Доктар раіць прахалодны душ? Ёсць фантан!

PHOTO.BYMEDIA.NET

У спякоту неабходна піць вадкасці на 1–1,5 л больш, чым звычайна, а таксама абмежаваць спажыванне тлустай, высокакаларыйнай ежы і алкаголю. Алкаголь пашырае крываносныя сасуды і спрыяе развіццю непрытомных станаў, сцвярджае галоўны тэрапеўт Міністэрства аховы здароўя Беларусі Алена Адаменка. Для пазбаўлення ад смагі лепш выбіраць не мінеральную ваду, а ягадны морс або натуральны сок. Доктар не рэкамендуе ў гарачае надвор'е ўжываць салодкія газаваныя напоі. У рацыёне харчавання павінныя дамінаваць садавіна і гародніна, бо арганізм лёгка яе пераліраўлівае.

Захаваць здароўе ў сквар дапамогуць нескладаныя правілы. Так, каб пазбегнуць сонечнага ўдару, абавязкова трэба насіць галаўны ўбор.

Адзенне павінна быць свабодным і з натуральных тканін: у сінтэтычнай вопратцы цела не аддае цяпло. У выніку здараецца перагрэў арганізму.

Асвяжыцца пасля спякотнага дня дапаможа прахалодны душ, пажадана некалькі разоў на суткі. Калі такой магчымасці няма, трэба старацца часцей апалоскваць рукі вадой.

Для барацьбы з бессанню, якая нярэдка наведвае ў душнай кватэры, лепш выбіраць прэпараты на травах, да прыкладу, адвар з мяты. Перад сном карысна зрабіць вільготную прыборку, праветрыць памяшканне, прыняць кантрасны душ.

Калі ў кватэры горача, можна паставіць на тумбачку ля галавы пасудзіну з лёдам і накрыць яе сурвэткай.

Людзям з хранічнымі захворваннямі і захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы нельга ў сонцапёк працаваць на вуліцы. Ім таксама неабходна своечасова прымаць лекі, рэгулярна мераць ціск і пульс.

**Паводле БЕЛТА**

КІМ БЫЦЬ

## У гомельскім ПТВ будуць рыхтаваць пчаляроў

У сістэме прафесійна-тэхнічнай адукацыі Гомельскай вобласці ў новым навучальным годзе будзе адкрыта 10 новых спецыяльнасцяў. У ліку новых прафесій, якія могуць абраць абітурыенты, — страхар па рулонных дахах і дахах з адзінкавых матэрыялаў, бляхар, пчаляр, ліцейшчык пластмасаў. Ва ўпраўленні адзначылі, што па вопыце мінулых гадоў ва ўстановах прафтэхадукацыі конкурс на некаторыя спецыяльнасці (напрыклад, аператар паштовай сувязі) чакаецца ад 4 да 8 чалавек на месца. Цікава, колькі будзе пчаляроў?

**Паводле БЕЛТА**

ЧАЛАВЕК І ПРЫРОДА

## У Беларусі плануецца вырошчваць афрыканскага сома і стронгу

Афрыканскага сома плануюць развесці ў рыбгасе «Волма», стронгу (фарэль) — у рыбгасе «Альба». Ёсць спадзеў, што новы кірунак у рыбнай гаспадарцы дазволіць зрабіць ніжэйшым кошт афрыканскага сома і стронгі, якія раней завозіліся ў Беларусь.

Усяго ў беларускіх рыбгасах вырошчваецца каля 16 тыс. тон рыбы (да рэформы рыбгасаў у акцыянерныя таварыствы — каля 4 тыс. тон, галоўным чынам карп). Апошнім часам з улікам попыту сталі вырошчвацца каштоўныя пароды рыб: асятровыя, белы амур, таўсталобік.

Будзем спадзявацца, што «Волма» здолее забяспечыць тэмпературу вады, неабходную для шчаслівага жыцця экватарыяльнай рыбы, а ў «Альбе» хопіць чыстых і хуткіх ручаёў, у якіх стронзе будзе камфортна.

**СМ; паводле БелаПАН**

**Сапраўдная беларуская кухня**

### Віны: што да якой стравы пасуе

Да супоў падаецца (пасля таго, як суп з'едзены) мадэра і херэс; пасля рыбы і вустрыц — белыя французскія віны, такія як: шаблі, сатэрн; да мяса — бургундскія або венгерскія; да болып лёгкіх страў і гародніны — бардо; пасля смажаніны — шампанскае, а да дэсерту — віны старыя: такай, малага. Напрыканцы ж да чорнай кавы — лікёры і каньякі.

Шампанскае пару гадзін да абеду трэба патрымаць у лёдзе. Французскія белыя трэба падаваць халоднымі, чырвонае ж бардо трэба за некалькі гадзін прынесці ў пакой, каб сагрэлася.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**

**Падрыхтавала НБ**

**Прыватныя абвесткі**

**СПАЧУВАННІ**

**27 мая раніцай памерла Алена Вінчэўская.** Ёй было ўсяго толькі 37 гадоў. Пахаванне адбылося 29 мая ў Слоніме. Светлая памяць!

**БЕЛАРУСКАЕ КУПАЛЛЕ Ў ЛОНДАНЕ**

Сёлета яно адбудзецца 25 чэрвеня. Месца правядзення — традыцыйнае: сад Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтра ў Паўночным Фінчлі (39 Holden Road).

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

ТЭХНАЛОГІІ

## У Беларусі запушчаны першы 3D-канал

Інтэрактыўнае тэлебачанне ZALA ад 1 чэрвеня запусціла ў эфір 3D-канал. Яго тэставае вяшчанне будзе даступнае падпісчыкам HD-пакета. Для прагляду трохмерных перадач трэба атрымаць спецыяльную прыстаўку. Яе можа ўзяць кожны карыстальнік HD-пакета ZALA.

Zala — гэта праект «Белтэлекама». Тэлесігнал перадаецца праз інтэрнэт, у выніку глядач можа сам выбіраць патрэбныя яму перадачы ці замаўляць кінастужку для прагляду. Кошт базавага пакета (40 каналаў, у тым ліку ТНТ) складае 15 200 рублёў штомесяц. Дадатковы пакет з каналамі высокай якасці (HDTV) каштуе дадатковых 16 500 рублёў.

3D — трохмерная выява. Фільмы, знятыя ў такім фармаце, карыстаюцца вялікім попытам сярод гледачоў, але вымагаюць вялікіх фінансавых затратаў. Абавязковай умовай для прагляду аб'ёмнага малюнка з'яўляецца наяўнасць тэлевізара з функцыяй 3D і сумяшчальных з ім актыўных 3D-акуляраў. У Беларусі канал з-за адсутнасці дарагіх ліцэнзій па першым часе будзе паказваць прадукт уласнай вытворчасці.

**ЯВ**

# Народны майстар з-пад Пружан дасціпна высмеяў Лукашэнку





У Ружанах быў арганізаваны фэст «Ружанская брама». Арганізаваў яго райвыканкам, але сапраўдны фурор на ім зрабілі працы 80-гадовага народнага майстра Мікалая Тарасюка. Чалавек выканаў з дрэва смелую сатыру на Аляксандра Лукашэнку. І суправадзіў дасціпнымі подпісамі на мясцовым дыялекце.

80-гадовы народны майстар з вёскі Стойлы Пружанскага раёна — рэзчык па дрэве. Ён мае ганаровае званне народны майстар Рэспублікі Беларусь. Ягонай творчасці прысвячаліся цэлыя альбомы.

Свята было арганізаванае Ружанскім райвыканкамам у паўразбураным Ружанскім замку для прэзентацыі дыска «Кнігазбор роду Сапегаў». Было і тэатралізаванае прадстаўленне, і лазернае шоу. Але сапраўдным шоу стала выстава народных майстроў.

Тарасюк выставіў на ім фігуркі, падобныя да прэзідэнта адной усходнееўрапейскай краіны.

Персанаж то выступае з трыбуны, то стаіць на каньках. А народ вакол жыве сваім жыццём. І нават публіка ў зале праваДыра не слухае, займаецца сваімі справамі. Усё, што думае пра сітуацыю ў краіне, рэзчык выказаў у раскладзеных тутсама подпісах. Часам гумарыстычных, часам злых, напісаных на мясцовым дыялекце.

Публіка высока ацаніла творы свайго земляка, хоць некаторыя спачатку і палохаліся.

**Сяргей Гезгала,**
**фоты braiton-bx.livejournal.com**







**Генерал Ратка Младзіч, якога вінавацяць у забойстве 8000 мусульманаў у Срэбраніцы ў 1995 г., сеў на лаву падсудных у Гаазе. Больш за дзесяць гадоў ён хаваўся ад суда.**




**Хто ў лазні лішні? Надпіс пабачаны ў Дзяржынску.**

## Анекдоты

* * *

Міліцыя папярэджвае: у Мінску з'явілася група махляроў. Яны падманным шляхам купляюць у грамадзян валюту па курсе Нацбанка.

* * *

Паступіла прапанова зняць з усіх фальклорных зборнікаў прыказку «гуртам і бацьку лягчэй біць» як экстрэмісцкае выказванне, скіраванае на скіданне Канстытуцыйнага ладу гвалтоўным шляхам.

* * *

— На запраўках абмежаванні: 25 літраў ў бак.

— А што Вам замінае заліць 25 літраў, зрабіць кола вакол запраўкі і яшчэ раз заліць 25 літраў?

— Замінае чарга ў паўкіламетра.

* * *

— Вы хто?

— Я мірны атам.

— А чаму з сякерай?

— Вось бачыце, як мала вы ведаеце пра мірны атам!

* * *

Жадаеце летам трохі падзарабіць? Праверце кішэні свайго зімовага адзення!..

* * *

Пенсіянерка Пятрова на экскурсіі ў музеі васковых фігур тры гадзіны скардзілася Сталіну на жыццё.

* * *

Сёння раніцай, пакуль фарбавалася, пяць разоў губляла прытомнасць ад уласнай прыгажосці...

* * *

Маладыя бацькі прывезлі свайго нованароджанага сына да лекара. Лекар агледзеў яго і сказаў:

— У вас вельмі прыгожае дзіця.

— Вы, напэўна, кажаце гэта ўсім маладым бацькам.

— Не, толькі тым, чые дзеці сапраўды сімпатычныя.

— А што ж вы кажаце астатнім?

— Ваша дзіця так на вас падобнае!..

## «НН» сто гадоў з вамі

**Аўстрыя думае аб тым, каб усе славянскія гасударствы на Балканах прылучыць да сябе** і супольне з імі стварыць вялікае і моцнае славянскае гасударства. Каб да гэтага дайсці, Аўстрыя падтрымлівае дробныя гасударствы на Балканах проці Турцыі.

**«НН». №22. 1911.**

**Хтосьці зашпурнуў гранату на двор расійскага пасольства.** У выніку выбуху на газоне ўтварылася «варонка» глыбінёю 6 і дыяметрам 17см.

**«НН». № 23. 2001.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7285.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 07.06.2011.
Замова №. 2713.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11022